Ніжэйшы тэкст зьмешчаны як 5 разьдзел у кнізе "Культура ў кантэксьце" — Weston La Barre. **Culture in Context**. Chapter 5 (119 — 140 pp.), "Personality from a Psychoanalitic Viewpoint".

Выдавецтва "Дьюк Юніверсіты Прэс", г. Дюрэм, штат Паўночная Караліна (ЗША), 1980.



Нынейшы разьдзел мае за сваю базу адчыт, што быў прэзэнтаваны 5 лістапада 1966 года ва ўніверсітэце Райса, г. Хьюстан, штат Тэхас, ды потым быў апублікаваны ў кнізе The study of Personality: An Interdisciplinary Appraisal, ed. Edward Norbeck, Douglas Price-Williams, and W. W. McCord.



У кнізе "Культура ў кантэксьце" перадрукавана з дазволу выдавецтва "Голт, Райнгарт энд Ўінстан".

**Усю адказнасьць за дадзенае выданьне нясе У. Марулік.**

Хіба неяк дзіўна зробіцца, калі на сімпозіўме па псіхалогіі, зьявіцца прапанова наконт адмысловага разгледжаньня Фройдавае псіхалогіі, бо ж і без таго ўплыў Фройда на нашыя часы сягае й дасягае як найдалей ды як найглыбей. Кажучы словамі паэты Одэна, Фройд, "Хай ён часта памыляўся, а, здаралася, упрост убіваўся ў недарэчнасьць, для нас цяпер гэты чалавек ужо не проста асоба, але нейкі суцэльны клімат разважаньняў" [1]. Але ж тая акалічнасьць, што знаёмства з псіхааналітычнай тэорыяй вельмі шырака распаўсюджана, хай зьвесткі пра фройдызм нярэдка атрыманы былі з другіх, калі ня з трэціх, а то й увогуле неведама зь якіх па чарзе рук, не становіць, аднак, гарантыі дакладнасьці агульнапрынятых уяўленьняў — ужо таму, што мы носім ў сабе глыбока захаваныя пабудкі, якія пануждаюць да скажэньня шмат якіх са знаходак Фройда. Таму й падаецца пажаданым нейкае падсумаваньне гэтага ўцяжлівага псіхааналізу на падставе першасных крыніцаў [2]. Тут мне з самага пачатку варта ясна зазначыць, што, на маю думку, Фройд ня аднойчы рабіў памылкі — прыкладам, у працы "Тотэм і Табу" (Totem and Taboo), гэная ягоная праекцыя Эдыпавага канфлікту на зусім бачную, неаспрэчна міталагічную мінулую гісторыю роду людзкога, — я маю на мысьлі ягоную тэорыю "першабытнае арды", або зноў жа ў так званай "гідраўлічнай тэорыі лібідо", якая заклапае, што, быццам, энергія лібідо, колькасьці якой у розных асобнікаў не аднолькавыя, здольна, у межах цела, перацякаць, адвольна й свабодна, з аднаго органу або сістэмы да другога органу або іншай сістэмы цела[1]. Аднак тое, што ён зрабіў ды паклаў у

[1] Тэорыю "першаснае арды" зь ейнай "цыклапічнай сям`ёй" я адкідаю, выходзячы з антрапалагічных разважаньняў: найноўшыя прыматалагічныя дасьледваньні аніяк не дадаюць веры ў гэткія змысьленьні; бо ж ягчы паляўнікі аўстралапітэкі пэўна жылі сем`ямі — падобныя нуклеарныя радзіны павінны былі існаваць ў складзе большай, зь неабходнасьці супрацоўнай групы паляўнічых-самцоў, якім трэба было здабываць буйнага зьвера альбо паляваць на занадта рухомыя жывёлы. (Гл.: Уэстан Ла Бар. Людзкая жывёла (Weston La Barre, The Human Animal.

агульную скарбніцу, застаецца стрыжнем навачэснае псіхіатрыі, і да таго ж паасобныя часткі створанага Фройдам шмат у чым засвоены былі ўсімі навачэснымі псіхалогіямі.

Ёсць у псіхалогіі ад Фройда чатыры сутнасныя рысы, якія з самага нараджэньня гэтае навукі адразу паставілі яе па-за супольнасьцяй астатніх псіхалогіяў:

(1) Псіхааналіз стаўся першай дактрынай у псіхалогіі, што насампраўдзе пачала бачыць ва ўсім целе чалавека мейсца, дзе даводзіцца жыць[2]. Асаблівыя асабістыя дасьведчаньні гэтага цела ды

---

Chicago: Phoenix Books (paperback — у вокладцы), 1960, p. 346)). Крёбэр (Kroeber), падчас сваёй сьмерці найпярвейшы, як усе згаджаліся, антраполаг у сьвеце, зусім слушна ў сваім славутым аглядзе "Тотэма й Табу" заве гэтую тэорыю прыповесткай тыпу "Дык і праўда што" (Just so), а што да поглядаў Фройда на татэмізм, дык яны цяпер паўсюдна адкідваюцца антраполагамі як нейкі этыялагічны міт. Тым ня менш, калі мець здольнасьць адрозьніваць інтуітыўныя здагадкі й прадчуваньні Фройда ад ягонае няўдалае антрапалогіі, дык той жа "Тотэм і Табу" шмат чаму навучыць нас. А так званая "гідраўлічная тэорыя лібідо" падаецца мне неверагоднай з поваду як анатамічных, гэтаксама й неўрафізіялагічных ды біялагічных мяркаваньняў. У гэтым, маю пэўнасьць, да мяне далучыцца бальшыня псіхолагаў.

[2] Псіхааналізу ня трэба статыстычна раскладаць чалавека на штучныя ды адвольна выбяральныя кавалкі, у нагрувашчаньні якіх калі й застаюцца крытычна важкія розьнасьці "параўнальных" вялічынь, дык яны альбо прыхоўваюцца, альбо не заўважаюцца, ня ўзгадваючы ўжо пра непазбежную страту маючых значэньне рысаў тае або іншае суцэльнае канфігурацыі, але наадварот, псіхааналіз павінен не выпускаць з вока жывую, суцэльную, дзейную ды дзеючую чалавечую істоту, якой яна ёсьць у рэальных сітуацыях. Псіхааналіз ня мае быць паніжаны да гэткае пераапранутае нэйрафізіялогіі, якая не жадае заўважаць "суб`ектыўныя" псіхалагічныя падзеі. І ён зусім не павінен абярнуцца ў адкрыта недачалавечую, жывёльную псіхалогію. Калі ўжо ў пацукоў няма нуклеарнае радзіны, забароны інцэсту, эдыпавага комплексу, культуры, сьвядомасьці, псіхозаў (хай псіхолагі-эксперыментатары, маючы ключыкі, запазычаныя з псіхааналізу, мелі былі досьледным шляхам давесьці, што пацукоў, таксама як і іншыя жывёлы, магчыма зраіць неўратычнымі), ані мовы, або артыкуляванага сімвалізму, дык на добра можна цьвердзіць, што аніводнае з гэтых крыычных для чалавека прылад нельга спаткаць сярод пацукоў, а гэта значыць, што й разважаць пра нешта гэткае тут няма анікага сэнсу. Больш таго — бо ж абаронныя механізмы чалавека ёсьць гэткімі, якімі яны ёсьць, — "кантраляваны эксперымент" (г. зн. "досьлед, якім можна кіраваць") хутчэй за ўсё пакіруе пабудовай досьледу гэтак, што з эксперыментальнае сітуацыі будуць выкінуты ўсе тыя небяспечныя ды непрыемныя адрыцы, зь якіх менавіта нам можна было б таго-сяго даведацца пра сябе

завіласьці вывучэньня яго дзеля прыстасаваньня, калі, з уплывам часу, розныя часткі гэтага цела па чарзе набіраюць біялагічнага значэньня — асабліва ў сувязі з культурна ўладкаванымі падыходамі й патрабаваньнямі пэўнага дадзенага грамадзтва — паступова надаюць кшталт індывідульнай асабістасьці, глыбінна фармуючы структуру асобы[3]. Асабістасьці, прынаймі часткова, трэба вучыцца: індывідуальная будова дадзенае асобы кшталціцца індывідуальнымі дасьведчаньнямі вось гэтага паасобніка, і вага таго, што перажыў кожны дадзены чалавек, у ягоным устрою, у структуры ягонае асабістасьці, упрост здумеваючая. Тым не меньш, псіхааналіз ёсьць паглыблена біялагічным у дачыненьні да падставовых дадзеных наконт "спэцыфікі біялагічнага гатунку" ды ўвогуле "біялогіі віду" і чуйна сочыць за канкрэтнымі сацыяльнымі й культуровымі крыніцамі вучэньня й навучаньня.

(2) Псіхааналіз ёсьць першай псіхалогіяй, якая ўзяла на сябе клопат зацікаўленьня мэтай (мэта тутака разумеецца як нешта супрацьлеглае працэсу) мысьленьня. Да Фройда ўсе разумелі, што

---

ды трохі лепей укшталтаваць ды падбудаваць свае веды пра людзей ды пра сябе; зь лепшага, выходзіць, падобныя досьледы здольны ставацца "выпрабаваньнямі", "тэстамі", а ладзяць іх нярэдка недарэчнымі, у сэнсе метадалогіі, спосабамі, хай гэткі тэст часам і сьцьвярджае слушнасьць тае альбо іншае гіпотэзы псіхааналізу, якая ўжо дастаткова падцьверджана клінічнай практыкай. Псіхааналіз ёсьць чымсьці падобным да антрапалогіі, калі тая дасьледуе дзейныя групы ў іх дзеяньні, імкнучыся вызваліць дасьледваньне ад ўсякага маніпуляваньня, — гэтак і псіхааналіз ёсьць натуралістычнай навукай "сачэньня за птушкамі", бо не маніпулюе сваймі суб`ектамі вывучэньня, не заганяе іх, сваіх паддосьледных штучнымі хітрыкамі ў нейкія адмыслова абмежаваныя абставіны, і псіхааналіз усяго толькі назірае. Але ж і простае аглядваньне бывае навуковым: ці ж астраномія ня ёсьць навукай? хай яна й ня скідвае зоркі зь іхніх арбітаў.

[3] Як ужо псіхааналіз арыентуецца на цела, а тое, у функцыянальным сэнсе, ёсьць крос-культуравым фэнаменам (г. зн. магчыма разглядаць чыннасьці людзкага цела ў нейкай культурнай пэрспэктыве), дык няма чаму дзівіцца, што культурова-асабістасьцявыя дасьледаваньні групавога этасу таксама пачынаюцца ў межах пэўных псіхааналітычных рамак. Заклапочанасьць псіхааналізу мэтамі й сімвалічным зьместам мысьлення робіць яго яшчэ й прыдатным, да таго ж адзіным прыдатным з усіх напрамкаў псіхалогіі, шляхам дасьледавання міту й рэлігіі. Толькі шкадаваць, што "сацыяльная антрапалогія" мела дэградаваць да нейкае нікчэмнае "алгебры крэўнага сваяцтва", якая апантана шукае ўзоры ды пабудовы, калі шмат якія з гэткіх людзкіх адносін ды сувязей магчыма тлумачыць не праз структурныя канцэпцыі, але псіхааналітычна знаходзячы для іх функцыянальныя сэнсы й значэньні.

мысьленьне ёсьць папросту нейкім відавочным ды рацыянальным — інакш кажучы, разумным або разумовым — шляхам адкрываньня й разведваньня натуры рэчаіснасьці. Псіхааналіз задаў быў цяжкі ўдар па гэткай няспраўджанай ды выгоднай для бескалотных — бо ж прыемна ў такое верыць — веры, на ўзор таго, як тэорыя Капэрніка задала згубны цёс па геацэнтрычнай астраноміі, у якой Зямля зьмяшчалася ў сярэдзіне сусьвету, або таксама вельмі падобна на той руйнуючы ўдар, што атрымала старая біялогія, ставіўшая ў цэнтр чалавека, ад эвалюцыйнай тэорыі Дарўіна. Бо Фройд убачыў у думаньні шмат складанейшую рэч, менавіта — працэс дасягненьня міру паміж трыма змагаючыміся кожная з кожнай сіламі. Першыя дадзеныя псіхалогіі — гэта сьвядомы розум. "Я мысьлю, значыць, я існую", — казаў Дэкарт, і ўсе з нас перакана. ў рэчаіснасьці нашых уласных розумаў. Аднак сьвядомы розум адкідваецца колькімі псіхалогіямі як нешта занадта "суб`ектыўнае" для дасьледаваньняў, і таму біхейвіярызм, узгадаем хаця б адну дактрыну, змушаны з парога адмаўляцца ад вывучэньня суб`ектыўных справаў у псіхалогіі. Фройд заве гэтую суб,ектыўную, свядомую, выканаўчую дзеля прыстасаваньня частку душы словам "эга" (ego = я (лац.) ). Але ж эга, як мы пазьней пабачым, павінна служыць тром гаспадарам, а не ёсьць выключна паслухмяным падуладным самае толькі рэчаіснасьці.

Перш за ўсё, ёсьць неадольныя ўладарныя патрабаваньні таго ж роду, што й патрэбы цела жывёлы; гэтыя патрэбы можна неяк адтэрмінаваць альбо падпарадкаваць нейкаму ладу, але ў рэшце рэшт іх нельга назаўжды заставіць незадаволенымі, як ужо жывёла жадае захаваць жыцьцё, здароў`е ды здольнасьць да ўзнаўленьня й памнажэньня свайго арганізму. Прыкладам, задавальненьне ўсьвядамлянае прагі магчыма адкласьці на пазьнейшы час, вядома ж, у пэўных межах, але калі вада гэтак і не зьявіцца, жывёла ўканцы загіне[4]. Агульная сума ўсіх гэтых патрабаваньняў

[4] Не ўсе арганічныя патрэбы, натуральна, нават усьвядамляюцца. Калі, напрыклад, па цяжкім гараваньню ўзровень $CO_2$ у крыві падвысіцца, дык адмысловы хэмарэцэптар на уваходзе сэрца паскорыць тэмп працы сэрца ("пульс" стане часьцей), каб пабольшыць замяненьне вуглекіслаты кіслародам, дзеля чаго чырвоныя крываныя цельцы пасьпешна запампоўваюцца ў лёгкія. Ёсьць мноства падобных згаданаму аўтаматычных механізмаў, гэткіх гомэастатычных прылад, арганізуючых у целе "зваротныя сувязі", пра што падрабязна можна даведацца з кнігі У. Б. Каннона "Мудрасьць цела" (W. B. Cannon. The Wisdom of the Body) (Ню-Ёрк: W. W. Norton & Co, 1982). Канешне, так званы пярэдні мозг, або, як яшчэ кажуць, лобавыя долі мозгу таксама могуць быць толькі яшчэ адной гэткай, ды, філагенэтычна навейшай, прыладай, гамеастатычным механізмам, які патрэбны

псюхэ — г. зн. душы або розуму — завецца словам "ід" (Id = яно (лац.)). Калі патрэбы ід прыгнятаюцца, дык тады мы маем нэўроз разам з канфліктамі ўсялякага роду ды "паўротам прыціснутага" ў форме перакручаных сімптомаў як пакараньня, гэтак і задавальненьня.

Па-другое, эга мусіць дастасоўваць арганізм да вонкавае рэчаіснасьці, адкуль гэты арганізм бярэ біяхімічную энэргію, бо ж аніякі арганізм не здолее вытрымаць ды застацца пры жыцьці, калі не дасягне адаптаванасьці да свайго наваколья. Як ужо эга страчвае сваю прыстасоўную лучнасьць з рэальнасьцяй, мы тады маем псіхоз. А па-трэцяе, эга павінна адаптавацца да маральных вымаганьняў пэўнага асабліва традыцыйнага грамадства, хай і ня ўсе з гэтых патрабаваньняў з немінучасьцяй умацоўваюць жыцьцё альбо, прынамней, выглядаюць разумнымі. Уплыў маральнае рэчаіснасьці спадае ў розум ды асядае ў душы ў форме гэткіх водпадаў, якія мы ведаем як запальчыва кшталтаваная сьвядомасьць — яна ж сумленьне альбо "супер-эга" (звыш-Я з лаціны). Калі ж асобнік выказвае няздольнасьць да пачуцьцёвае ды прымусовае інкарпарацыі гэтых маральных вымогаў у сваю асабістасьць, хай і ўсьведамляючы іх сваім розумом ды ўспрымаючы гэткія звычаі свайго племя прыблізна такім чынам, як гэта ўмее вандроўны антраполаг, што ў стане пазнаваць рэгулы й звычкі чужынскага грамадства без усякага хваляваньня, але з халоднай крывёю й у поўні незаангажаванасьці, бо ж гэтыя дзівосныя звычаі аніяк ня могуць мець да антраполага аніякага дачыненьня; дык вось, у гэтым выпадку мы маем да чыненьня з псіхапатам — псіхапат, здараецца, добра арыентуецца ў фізічнай рэальнасьці й у стане патрэбным чынам адпавядаць на імпульсы свайго ід. Але маральна ён — хворы. Акрэсьленыя суадносіны можна прайлюстраваць гэткай дыяграмай:




Дык эга, як выходзіць, павінна служыць адначасова тром гаспадарам: арганічнаму Ід, навакольнай Рэальнасьці ды грамадскаму Суперэга — адкручваньне ад паслухмянасьці кожнаму зь іх дае

---

толькі дзеля вырашэньня новых або фізіялагічна невырашальных, бо некантралюемых фізіялогіяй, праблемаў.

нам адпаведна нэўроз, псіхоз а псіхапатыю. У такім поглядзе эга ня ёсьць гаспадаром у сваім уласным доме — розуме[5]. Мэтай мысьленьня ёсьць дасягненьне пэўнага рухомага ўраўнаважаньня — гамэастазу, каб захаваць нейкага роду раўнавагу або modus vivendi* паміж тымі трыма супольнасьцямі вымаганьняў, якім эга мае адпавядаць. І, як кожны ведае, задача тая ня ёсьцьані прос-тай, ані вырашальнай аўтаматычна, бы сваім рухам.

Эга валодае пэўнай колькасьцяй абаронных заслонаў, і ўсе мы час ад часу карыстаемся чымсьці з гэтага ахоўнага арсэналу, дзе ўсякага хапае — ёсьць рацыяналізацыі, адмаўленьні, праекцыі, інтэлектуалізацыі й іншае падобнае — але ж хранічнае звышужываньне тых прыладаў абарочваецца новымі складанасьцямі й цяжкасьцямі. Рацыяналізацыя ёсьць пошукам добрых прычын ды разумных падставаў для тых безпадстаўных а неразумных пазіцыяў, якія б жадалі ўтрымаць мы пры сабе або на якіх мы хочам утрымацца, а нашае, магчыма няўсьвядомае, "я лепей ведаю, што трэба", адно толькі павялічвае рэчышча плыні рацыяналізацый. Скрайняй праявай падобнага абслугоўваючага самаго сябе самаапраўдваньня ў змысьленьнях і праз выдумкі ёсьць шызафрэнія. Адмаўленьне, адхіленьне — гэта папросту псіхалагічнае "адварочваньне" ад няпрыемных фактаў, гэткае "паказваньне спіны" таму, што не абяцае радасьці — з дапамогаю такога ўзору хітрыкаў любіць абараняцца эга ў гістэрыі. Праекцыя, перанос аднаго на

---

[5] Рэчаіснасьць, калі гаварыць іншасказальна, як бы канстатуе: "Дык вось як яно ёсьць насампраўдзе". Ід натарчыва не хоча зьвяртаць ані на што сваёй увагі ды толькі бязглузда й неабачліва настойвае: "Дай!". Суперэга патрабуе: "Мусіш!" (або: "Таго рабіць нельга!"). Але адно толькі эга ў стане прамовіць, і прамаўляе: "Буду" (альбо: "Не стану"). І рэальнасьць, і суперэга, і ід усе яны маюць схільнасьць разлічваць на тое, што іхнія адозвы будуць пачутыя й прынятыя як загад "Трэба гэтую рэч зрабіць!", хай сам гэты заклік, магчыма, не больш чым наш (і, хто ж ведае, мой няслушны) погляд на рэчаіснасьць, якая нібыта чагосьці ад нас вымагае; ад выкананьня патрабаваньняў сьвядомасьці часам ухіляецца за сьвядомае ухіленьне даводзіцца плаціць пачуцьцём вінаватасьці альбо сораму; а ід можна заспакоіць мноствам альтэрнатыўных спосабаў, калі мова йдзе пра калорыі або іншыя непазбежныя патрэбы — прыкладам, ежа не абавязкова мусіць быць менавіта той, што была замоўлена сьведама. І аднаму толькі эга даводзіцца цягнуць на сабе ўвесь цяжар экзістэнцыялісцкіх эпістэміялагічных праблемаў (навошта жыць? што ёсьць веды? і г. д.).

* Супольнасьць умоў існаваньня; часова дамова паміж спаборнікамі (лац.). — *Заўвага перакладчыка* (сэнс: барацьба + дамова).

другое — гэта калі чалавек спрабуе ўмовіць сабе й атачэньню, што нейкі забаронены імпульс дзейнічае не знутры, а звонку — на ўзор тае гістэрычнае пакаёўкі ў вельмі сталым узросьце, якая ўвесь час ды адчуваючы салодкую жахлівую адранцьвеласьць шукае пад сваім ложкам валацугу ды разам з гэтым прыемным страхаваньнем адчувае — але несьвядома — жаданьне мець гэткага лайдака ў сваёй пасьцелі. Дык ці ж вы не бачыце, што гэта распусны бадзяга церпіць ад сваіх дрэнных помыслаў, але аніяк не яна! Бо ж, самі на ўласныя вочы маеце пераканацца ў тым, як яна клапаціцца наконт недапушчэньня самае магчымасьці гэткіх дурных хаценьняў, ці ж не? Яна нібыта і мае ў сябе свой пірог, і аб`ядаецца ім: старая паненка мае магчымасьць траціць увесь свой час на разкашаваньне не занадта ўзьнёслым фантазіямі, але не адчуваючы разам з тым аніякае віны. Аднак, тыя сімптомы, якія бачны ў паводзінах пачцівае служанкі, у той самы час і караюць яе, і ўзнагароджваюць. Ейны страх, яе фобія ёсьць тым, чаго яна несьвядома прагне, але сьвядома адкідвае ды робіць праекцыю гэткага свайго бажаньня — але яна ніколі не дастае свайго мужчыну[6]. Фантазія забаўляе й нічым не пагражае; аднак жа яна ўсё ж такі, у рэшце рэшт, заспакаеньня не дае.

Эга мае й другія абаронныя мэханізмы, напрыклад, яно ўжывае "канвэрсію", г. зн. адмену, або перакідваньне. Канвэрсуючы гістэрык (часьцей гэта гістэрычка) здольны пераўтвараць усьведамлены псіхічны боль у нібыта рэальны боль фізічны, у цяр-

---

[6] Памылковым было б цьверджаньне, што яна, маўляў, папросту "хоча мужыка", і памылка гэткая ня ёсьць бязпечнай, бо ж, калі ўявіць зьдзейсьненьне ейнага жаданьня напраўдзе, дык яна, хутчэй за ўсё, кінецца ў псіхоз — і гэта таму, што, як пра тое сьведчаць бачныя ў яе паводзінах сімптомы, яна бароніць сябе ад згоды прызнаць тую праўду, што яна працягвае на ўсіх мужчынаў забарону на інцэст з пэўным каханымі мужчынамі (прыкладам, з бацькам або — не паўсюдна й не заўсёды — з родным братам; інцэст, па мыслі Фройдыстаў — гэта сэксуальны кантакт з бацькам супрацьлеглага полу). Спроба нібыта ўсемагутнага "тэрапэўта" папросту выціснуць зь псіхікі хвараблівыя сімптомы можа скончыцца на пазбаўленьні гістэрыка або нэўротыка ад ягоных зь неабходнасьці ахоўных і абаронных прылад, што азначае, адначасова, абрыnаньне хворага чалавека ў яшчэ цяжэйшую сітуацыю. Дабразычлівая "рада" сябры, хай сабе й праніклівая (ды, часьцей, як раз праніклівыя, усё разумеючыя рады дзеюць найгорай), таксама здольна весьці да яшчэ горшага, калі не зважаюць увагі на вышэй акрэсьлены псіхіятрычны прынцып (што нельга пазбаўляць чалавека абароны, калі нічога другога не прапануецца).

пеньне цела, дасягаючы гэткім шляхам таго, гэтулькі ўласьцівага канвэрсійным гістэрыкам стану "belle indifference"* , што зусім не перашкаджае мнеманаму хвораму (хворай) увесь час шукаць а знаходзіць усё новую працу для хірурга, якога гістэрычны цярпелец змушае адсякаць усё новыя й новыя нібыта нездаровыя органы цела. Такая канвэрсуючая гістэрычка можа (й часта гэтую сваю здольнасьць ужывае), з радасным тварам і ўвогуле ўсялякім чынам стараючыся дэманстраваць сваё зайздроснае самапачуцьцё, рэцытаваць даўжэзную песьню пра свае нібыта хворыя органы, пакутуючыя ад гэткіх немачаў, што калі б арганізм насампраўдзе цярпеў хаця б ад аднае напасьці з бясконцае лісты, дык сама дамнемана хворая асоба вельмі хутка апынулася б на парозе скону, замест таго, каб бадзяцца па лекарах ды сябрах, з гонарам распавядаючы слухачам жудасныя гісторыі пра свае муэньні. Тая "салодкая абыякавасьць" гэткае немачнае асобы, або, йнакш кажучы, дзівосная эмацыянальная бесклапотнасьць мае вытокам сваім канвэрсію (праекцыю) свайго псіхічнага стрэсу ў псэўдаарганічную хваробу, якая функцыянальна заступае ўсьведамляемую трывогу. Сэнс падобнае зьмены болю душы болем цела ёсьць у тым, што пакуты ад хірургічных апэрацыяў караюць хворую асобу, але адначасова яны ж здольны прыцягнуць да яе спачуваньне — дык таму яна мае пазбавіцца ад сімвалічна віннага органу. Аднак псота апошняга ёсьць адно толькі сімвалічнай. Вельмі хутка тая ж гістэрычка запатрабуе яшчэ адной аперацыі, таму што гэткі мазахічны працэс мае значэньне адсутнасьці хаця б якое дынамікі лекаваньня псіхалагічнае праблемы. У канчатковым выпадку такая нездаровая асоба можа й знайсьці падатнага хірурга ды выгандляваць у яго згоду на непатрэбную ампутацыю (бо ж і ў медыкаў здараюцца несьвядомыя матывацыі), а пасьля настае звычайна чарга спаданьня ў псіхатычнае забурэньне.

Як ужо мы станем узірацца ў псіхічную гульню "бадзяга пад ложкам", альбо, йнакш кажучы, паспрабуем выявіць сэнс гэткае забавы, каб зразумець іпахондрыю канвэрсуючае гістэрычкі, дык з тым як нашае ўгляданьне будзе йсьці ўсё глыбей, нам, разам з узростам нашае пранікліваасьці, будуць рабіцца ўсё больш ясьнейшымі прычыны браку талеранцыі ды хуткае страты ўсялякае зносьлівасьці, калі выпадае мець да чыненьня з нэўротыкамі. Рэч

---

* Прыемная абыякавасьць; дабрадушная апатыя (франц.). — *Заўвага перакладчыка.*

у тым, што мы зусім слушна заўважаем, што нэўротык, хай часткова, але ж цягне нейкую прыемнасьць з свайго сімптому; вось адкуль мы бярэм падставы лічыць нават сапраўдныя пакуты не больш чым "балбатлівым глупствам" альбо "недарэчнай выдумкай", вось чаму можам мы, са спакойным сэрцам, казаць на хворую асобу: "старая варона", — бо ж, мяркуем мы, калі й ёсьць у яе пэўныя праблемы, дык мейсцам іх знаходжаньня ёсьць розум, "хворая выабражня". Аднак, насампраўдзе, праблема — не ў хвараблівай заклапочанасьці мроячага розуму, — яна сядзіць у памяці, й больш нідзе. Нэўротыкі літаральна хварэюць на мінулае. Псіхіятрычная праблема ёсьць якраз у тым, каб здолець адкрыць тую даўніну, каб дасьледаваць ды зразумець перажытае хворым чалавекам. Сапраўды, нэўротык стварае ўражаньне на ўзор таго, што прыходзіць на думку ўважліваму глядачу перад славутай элінiстычнай скульптурай: рэзьбяр паказвае розпачлівае змаганьне Лаакаона й ягоных двух сыноў са страшэннымі зьмеямі, але, калі прыглядзецца, дык відавочна, што барацьбіты, каб дасягнуць вызваленьня, мусяць папросту выпусьціць гада з рук, пасьля чаго можна будзе пераступіць праз усе зьмяіныя сплоты, абручы й завіласьці, ды й пасьці сабе, куды вочы глядзяць. Тым не менш, робячы гэты свой прысуд, мы ня бярэм пад увагу дзьве акалічнасьці: па-першае, нэўротык таму гэтак моцна трымаецца сваіх сімптомаў, што яны чагосьці вартыя, таму што яны тое-сёе дзеля яго робяць — менавіта, яны абараняюць псіхіку нэўротыка ад павяртаньня здольнасьці бачыць рэчы, як яны ёсьць, бо відушчы можа пабачыць нешта пагрозьлівае; да гэтае выгоды часам далучаецца яшчэ й дадатковы плюс, "уторнае дасягненьне", сэнс якога ў аддзяленьні нэўротыка ад страхатлівае сітуацыі, робячы ягонае жалю годнае йснаваньне меней уцяжлівым ды прапануючы яму нейкае апраўданьне, — аднак, у той самы час, наяўныя сімптомы маральна караюць хворую асобу, накідваючы ёй пачуцьцё віны ды змушаючы яе перажываць фізічна адчувальныя трывогу й страх. Пацыент нібыта гаворыць да аналітыка: "Забяры ўсё, чаго патрабуеш, аднак дазволь толькі захаваць мне мае сімптомы!". Па-другое, з прычыны ўпартасьці пацыента праніклівая празорлівасьць аналітыка або сяброўскія інтуіцыйныя здагадкі аніяк ня будуць ані роўнымі, ані раўнавартымі аналагічным відовішчам, якія здолее адкрыць інтуіцыя самаго пацыента. Ужо сама слушнасьць празорлівай здагадкі — інсайту — змушае да звычайнай чуйнасьці абаронныя мэханізмы псіхікі пацыента. Кожны, хто меў нагоду спрабаваць умовіць нэўротыку нейкія наяўныя й відавочныя праўды наконт самаго слухача, добра ведае з свайго дасьведчаньня ды безпасьпяховых сваіх намаганьняў, што гэта ёсьць тая "упартасьць", ды й хіба згадзіцца з тым, што толькі ўменьне спрытнага й спрактыкава-

нага прафэсіянала ў стане перадолець тую адпорнасьць. Да таго ж, гэткага тыпу супраціўленьне часта вельмі лёгка заўважыць у іншых асобах, але што да сябе, дык пабачыць падобную ж упартасьць з свайго боку бывае амаль немажліва. Гэткім чынам "самааналіз" ёсьць немагчымым, калі толькі не абмежыць ягоныя заданьні вельмі сьціплым і вельмі цесным колам, бо ўсякае выйсьце за гэтыя межы адразу абарочваецца сваеасаблівым асьляпленьнем, якое звыш меры насіляецца з набліжэньнем да пунктаў, дзе затаілася рэальная пагроза або трывога. Падобна ж адпорнасьць у дачыненьні да асаблівых частак псіхааналізу, мабыць, часткова тлумачыцца атаесамленьнем упартага з нэўротыкам у тых пунктах, што закранюцца адвяргаемымі бакамі псіхааналізу, — таму што празарлівасьці апошняга стасуюцца таксама й да нас.

Мы ўжо бачылі, што ў фабічнай гістэрыі мае мейсца праекцыя замоўчваемае часткі псюхэ ў зьнешняе навакольле, а ў канвэрсійнай гістэрыі адбываецца праекцыя псіхічнага болю ў боль фізічны. Праекцыі эратычных ды агрэсыўных імпульсаў ёсьць таксама прысутнымі і ў самцоў, а не толькі ў кабет, асабліва, калі гэта паранойя. Замест распазнаньня сваіх уласных (забароненых або забараняльных) несьвядомых пажаданьняў такі чалавек абвінавачвае кагосьці іншага: маўляў, тая другая асоба ў ягоным напрамку робіць нейкія "непажаданыя" залёты сэксуальнага роду. Пакуль гэткае несьвядомае прагненьне застаецца ўсяго толькі гэтэрасэксульным, маніякальная асоба, — прыкладам, гістэрычка, — мае нагоду з поспехам працягваць карыстаньне параўнальна павярхоўным і празрыста наіўным абаронным мэханізмам тыпу "адмаўленьне". Але ж калі параноік падпадае пад уладу няўсьведамленнага дажэньня, якое мае гомасэксуальны характар, дык тады параноік патрабуе больш распрацаваных ды субтэльных спосабаў аховы на ўзор цалкам рацыяналізаванае "параноіднае сістэмы", бо ж яму аніяк нельга дазволіць сабе хай бы адробіну вясёлага настрою — добры гумар пагражае ня толькі парушэньнем псіхічнае абароны, але ж яшчэ й зьнясіляе чуйнасьць, калі ў міжчасе іншыя людзі могуць выкарастаць шчаліну ў вобразе цела параноіка, каб злаўмысна "атруціць" яго альбо "сунуць нож у плечы". (Натуральна, усе гэтыя страхаваньні ня маюць аніякага, за выключэньнем сімвалічнага, сэнсу). Паталагічная зайздрасьць азначае, што зайздроснік несьвядома адчувае прывабнасьць іншага мужчыны, але робіць праекцыю гэтага свайго пачуцьця на сваю жонку й абвінавачвае яе ў тым, што яна быццам хоча прыцягнуць да сябе ўвагу таго другога. Або, зноў жа, замест прызнаньня ўласнае недарэчнасьці, асоба, якая не жадае згадзіцца са сваёй нікчэмнасьцяй, змысьляе кампэнсаторную ўсемагутнасьць (гэта завецца "мэгаламанія" альбо "манія велічы") й лічыць сябе ў цалкавітай бяспецы, бо ж мэгаламану патрэбна менавіта су-

цэльная ахова. Альбо не хочучы згадзіцца з тым, што ў яго няма здольнасьці кахаць, чалавек набірае веры ў тое, што нібыта кожная жанчына кахаецца ў ім ("эратаманія"). Падобным чынам параноідальная падазронасьць перадае ўласныя нападнічыя й варожыя імпульсы, якія, калі яны будуць зьвернуты свайму надаўцу-параноіку, здольны ўспрыймацца тым апошнім ужо сьвядома ды як "усправедлівеньне" паранойі. Параноік Гітлер, прыкладам, экспанаваў усе згаданыя мэханізмы ў яскрава класічных, бы з падручнікаў, формах[7]. (Да таго ж у ягоных паводзінах бачныя й гістэрычныя сімптомы).

Разнастайнасьць мноства абаронных мэханізмаў амаль бязьмежная. Каб неяк разладаваць злосьць на свайго загадчыка, чалавек накідваецца з папрокамі на сваю Богу вінную жонку, тая штурхае дзіцё, якое дае капняка кату або сабаку. Інтэлектуалізацыя (пошукі зразумелых прычын) ды ізаляцыя (адасабленьне ад

---

[7] "Крывавая чыстка" з "вычышчэньнем" ягонага ўласнага памагатара, Эрнста Рёма, як і іншых былых паплечнікаў, была класічным прыкладам "гомасэксуальнай панікі", што ўвогуле была ўласьціва Гітлеру й не адзін раз выходзіла на паверхню, знаходзячы ўвасабленьне ў бязсэнсавых, як здаецца на павярхоўны позірк, забойствах альбо нібыта выпадковых паранайдальных зьнішчэньнях мностваў людзей. Мудрагелістая выдумка з "падпаленьнем Райхстагу" — гэта параноідны манэўр з мэтай спраецыраваць віну на непрыхільных уладзе ды яшчэ й набыць "апраўданьне" наскокаў і нападаў на розных непрыяцеляў, што пачаліся пасьля "пажару Рэйхстага" (Гісторыя з падпаленьнем Райхстагу застаецца цьмянай аж да сёньняшняга дня. Нібыта ёсьць факты на карысьць вэрсіі пра злачынца, які дзейнічаў самотна. — *Заўвага перакладчыка*); гэтаксама здарылася й з ракомым прыгнётам немцаў у чэскіх Судэтах: чуткі й размовы пра перасьледаваньні судэтскіх немцаў пачаліся напярэдадні інтэрвэнцыі нацыстаў у Чэхаславакію; гэтаксама было й з пазьнейшымі масавымі забойствамі жыдоў, якія склаліся ў наймацнейшую й яскравейшую псіхатычную ненармальнасьць за ўсе часы, што неяк зафіксаваны былі ў гісторыі людзкасьці. Культавае пакланеньне правадыру — "der shone Adolf" (Прыгажун Адольф (нем.)), як трэба было лічыць, быў ідалам, якога ўбаствялі ўсе нардычныя жанчыны, бо ж яны аніяк не маглі не закахацца ў фюрэры — ды ўсё нацысцкае балвахвальства — гэта яшчэ адзін класічны прыклад эрота-маніякальнай фантазіі. Варта б пацікавіцца й сэксуальным жыцьцём Гітлера: відавочна, ён належыць да катэгорыі гомасэксуалістаў, не ўсьвядамляючых гэткую нязвыклую схільнасць і таму не рэалізуючых яе практычна; словам, ён быў паранайдальным фанатыкам зь вельмі кволай, калі яна ўвогуле йснавала, гэтэрасэксуальнасьцяй. Згаданыя й іншыя паранайдальныя сімптомы багата адлюстраваны ў кнізе Korrad Heiden. Der Fuehrer. — Boston: Houghton Mifflin Company, 1944, і ў іншых выданьнях.

усяго астатняга) — ўласьцівасьці кампульсыўных (г. зн. натарчывых) нэўрозаў ды абсэсій (або апантанасьцяў), якія, іншым часам адрозьніваюцца гэткай завіласьцяй, што робіць іх ці не складанейшымі за паранайдальныя сістэмы, хай дынаміка разьвіцьця тых апантанасьцяў шмат у чым значна адрозьніваецца ад эвалюцыі паранойі. Занадта пэўнае свайго права панаваць сумленьне, альбо як кажа Фройд, уладарнае супэрэга можа стрышчыць эга (сьвядомасьць), абрынуць яго ў дэпрэсію, калі эга адчувае сябе слабым, кінутым, самотным, ня здольным кахаць і не каханым, бездапаможным, безрадным і ўвогуле "ня добрым". Альбо прыгнечанае эга ўзьнімецца супраць свайго ўладара ды яшчэ падштурхне да паўстаньня супраць супэрэга арганічнае ід, і гэтыя паплечнікі зрываюцца ў бунт супраць сумленьня, намагаюцца ўцячы ад шчыра суровага суперэга, і гэта нярэдка сканчаецца на нібыта вясёлым і бесклапотным "адпачынку ад сумленьня" або на хвацкай зухвалай маніі.

(3) Трэцяй адразьняльнай характэрыстыкай псіхааналізу можна лічыць тую праўду, што псіхалогія паводле Фройда сталася першай псіхалогіяй, якая надае важкае значэньне сімвалічнаму зьместу думкі й мысленьня. Нэўратычны сімвал, напрыклад, ёсьць чымсьці, чаго насампраўдзе няма, але ён, бы з дамовы альбо дзеля выгоды ставіцца на мейсца непрыймальнае, бо парушаючае спакой душы, рэчаіснасьці. Вялікая карыснасьць сімвалу адразу й упрост заўважаецца, прыкладам, у марах і снах, дзе жаданьне хавае сябе пад маскай сімвалу, каб хутчэй і прасьцей дасягнуць упрагнёнага, бо маска, гэта значыць сімвал, дазваляе падмануць чуйнага цэнзара сноў і праслізнуць за плячыма суровага супэрэга. Вядома ж, ёсьць магчымасьць зраджэньня з канфлікту занадта вялікае трывогі, і тады мы прачынаемся, часта адчуваючы памяркоўна кволую віну, да якое прымешана слабая, бы смуга, ўтульная, хай разам і настойлівая, задаволенасьць, праўда, задавальненьне гэткае здаецца нейкім няпэўным, трохі сарамлівым, бо вытокі ягоныя — не зусім слушныя. Здараецца, калі канфлікт стаецца збыт жорсткім, што сьніцца нешта жудаснае, калі здань кашмару абуджае сьвядомае эга нібыта благаньне аб дапамозе, і чалавек прадзірае вочы, аж дыгочачы ад жаху. Але ж, збольшага, здаецца ўсё ж, што сны, ва ўсялякім разе на працягу пераважнае часткі таго часу, калі чалавек сьніць розныя мары, можна лічыць не больш, чым яшчэ адной гомеастатычнай прыладай душы або розуму, ды прылада гэтая мае за мэту, перш за ўсё, ахову сну. За межамі карыстаньня сімволікай у сонных марах таксама бачна масіўнае ўжываньне сімвалаў, і відавочна, што гэтая акалічнасьць належыць да ліку найпершасных адаптыўных характэрыстык біялагічнага гатунку Homo sapiens, і таму аніякай псіхалогіі чалавека, што будзе ігнараваць натуру сімвалізму, нель-

га спадзявацца на дасягненьне якой-ніякой поўнасьці, або, прынаймней, дарэчнасьці.

Прырода сімвалізму, здаецца, дайшла сёньня да найшырэйшае грамадзкасьці, зь якое прычыны шмат ужо ёсьць такіх, хто ў сваіх пошуках самаапраўданьня ня грэбуе й паляваньнем на сімвалы, ператвараючы гэтую значную тэму ў аматарскую забаву, у повад для таварыскае балбатні. Хай бы, але ж такія гульні ў сімвалізаваньне нельга лічыць бязьпечнымі — пагрозы гэткае манеры забіваньня часу адрозьніваюцца шматлікасьцяй і складанасьцяй. Вось, калі ўзгадаць адну зь небязпек, вядома, што няма аніякага абсалютнага "сусьветнага ды ўсеагульнага слоўніка" 'мройных сімвалаў, які, зразумела ж, трэба было б зацьвердзіць у нейкай вышэйшай інстанцыі пасьля адпаведных і абавязковых парад, нарад і абмяркаваньняў з дагаджэньнямі, — такі "унівэрсальны слоўнік" забязпечваў бы адназначнае тлумачэньне сноў і лятуценьняў; аднак няма аніякае супольнасьці сімвалаў, якія абавязкова замацаваны ў розумах людзей. Таму рабіць "інтэрпрэтацыі" ad hoc* — небязпечна, бо адвольнае тлумачэньне здольна папросту хлусіць у інтэлектуальным сэнсе. З натуры рэчы паміжсімвальныя раўнаньні вынаходзяцца людзьмі, а не адкрываюцца ў фізічнай прыродзе, бо ж усе тыя раўнаньні паміж сімваламі, якія падзяляюцца пэўнай колькасьцяй людзей, што належыць да нейкага асаблівага грамадзтва, былі засвоены тымі людзьмі, гэтаксама як імі была засвоена праз вучэньне й вывучэньне рэшта іхняе культуры. Адсюль зразумела, што крос-культуровыя — прасякаючыя наскрозь суцэльнасьць усяе культуры — "інтэрпрэтацыі" рызыкуюць недасягненьнем сваіх мэтаў ды ў дадатак нярэдка будуюцца не на тым грунце, не на той культуравай базе. Зноў жа, цьвярозы розум заўжды ў стане заявіць: "Хадзем сабе, X ня ёсьць <u>папраўдзе</u> роўны Y!" — і будзе мець рацыю, хай нават мы слушна разумеем, што гэты чалавек разумее тое, што ён разумее, несьвядома, пераадольваючы нейкі супраціў, магчыма, яму не даецца як раз тая рэч, пра якую цяпер йдзе гутарка, а можа гэта мы адчуваем тую адпорнасьць? Зноў жа, а хто ж гэта займаецца сімвалізаваньнем? Пакуль нейкае значэньне, нейкі несьвядома адчуваны сэнс не замацуецца надобрае ў розуме будаўніка сімвалаў, зразумела, што гэта мы робім праекцыю свайго сэнсу, а адзінай крыніцай сэнсу на часе застаецца наш уласны розум. Выходзіць, што мы ня толькі не адкрываем зьместу чужое душы, але й нават не назіраем чагосьці апроч таго, што выйшла, падзіцячаму й зусім не дасьціпна, з нашае ж псюхэ, што мы самі вывялі з нашых душ. Нарэшце, <u>якія ж мы самі</u> ў той час, калі мы займаемся гэткімі нібыта "псіхааналітычнымі" гульнямі, якімі мы

---

* Пры нагодзе; адмыслова (лац.). — *Заўвага перакладчыка.*

робімся падчас калупаньня ў напаляваных сімвалах: ці стаемся мы падглядальнікамі-вуайерыстамі, ці прагнучымі справядлівасьці карнікамі, ці зласьлівымі ваяўнікамі, ці ворагамі ўсяго й усіх, ці залётнікамі-спакусіцелямі, ці "людзьмі нязвычайнае вышыні душы", ці ня ведаючымі пра сорам эгзгібіцыяністамі, — а можа яшчэ кімсьці? Увогуле гэткі "дзікунскі аналіз" на аматарскі капыл здольны ёсьць мець кожную з вышэй узгаданых уласьцівасьцей або мець нейкія іншыя рысы, таму што аматару не стае таго, што завецца "контр-трансфэрам" або "зваротнай перадачай" або "адваротным пераносам", бо гэты "зваротны перанос" неяк стрымлівае аналітыка, накідвае яму руплівасьць, і таму аналітык-прафэсіянал старанна сочыць за сваімі паводзінамі. Як ужо прафэсійны аналітык павінен, часта на працягу доўгіх тыдняў, шукаць сэнсу настрояў і перажываньняў пацыента, які сам сябе не разумее, і таму аналітык карпатліва вывучае шырокую плынь багата памнажаных з часам вольных асацыяцый пацыента, каб потым паказаць таму неаправерржныя, масіўныя й нядвухзначныя свае высновы, дык зразумела, што бадай не знайсьці нічога больш абражаючага пачуцьці мудрага з дасьведчаньня й цяжкае працы прафэсіянала, чым мітусьлівая зьвягня спрытнага аматара, які гандлюе дармавымі сімваламі. У дадатак, пабудкі аматара-сімвалізатара на таварыскай забаве вельмі не падобны на матывы доктара, які прымае хворых у сваім шпіталі — пра не ведаючую пра сорам недарэчнасьць мэтадалогіі ўзгадваць, хіба, ня трэба. Амаль гэткім самым чынам ды й шмат у чым з тых самых прычын траціць спакой і розум прафэсійны антраполаг бы ад болю зубоў, калі пачуе, як нехта вярзе лухту наконт "сімволікі" першабытнага мастацтва, ясна ж, што той "адмысловец" ня ведае нічога ані пра чалавека, ані пра племя, што стварылі мастацкі твор, але папросту, гэтак бы мовіць, імправізуе, выдумляючы ad hoc гэткі фальклор, тады як антраполаг-прафэсіянал, змушаны выслухваць тыя лайдацкія глупствы, магчыма рупліва працаваў месяцамі, каб знайсьці ў тубыльчых розумах сьляды й рысы, зь якіх, бы з галінак, збудавана ёсьць новая для навукоўца, бо чужынская, сімвалічная сістэма. Аніхто з праўдзівымі ведамі, хай, часам, сьціплымі, але засвоенымі шляхам працы й дасьледаваньня ці то індывідуальнае, ці то культуровае натуры сімвалізму, ня будзе зьняважаць сябе пыхаю бязглуздых аматарскіх "тлумачэньняў", ды яшчэ людзях. Тым больш нельга чакаць ад сур'ёзнага й ведаючага чалавека падатлівасьці на гэткія "інтэрпрэтацыі".

(4) Чацьвёртым адрозьненем псіхааналізу ёсьць рыса, зраджаючая пачуцьцё глыбіннае іроніі. Усе мы неяк ведаем пра тое, якія хітрыкі выдумлялі сучасьнікі каралевы Вікторыі, каб зганіць прыхільнікаў эвалюцыі паводле Дарўіна. Падобныя ўзоры абароны належаць да найгоршых і найжаласьліўшых спосабаў спрэчкі:

той, хто ўжывае гэткія мэтады, спачатку дае зразумець, што ён быццам зразумеў пачутае, але, тым самым часам, ён хуценька шукае шляхі, на якіх лепш будзе паканаць свайго апанэнта, каб потым раптам на яго кінуцца з абвінавачваньнямі — калі такі дыспутант больш-меньш удала скажае сутнасьць таго, з чым няма жаданьня згаджацца, дык яму даволі проста адчуць сябе пераможцам. Вось, дзеля прыкладу, клішэ супраць Дарўіна: "Ці ж Вы сапраўды маеце пэўнасьць, што Ваш дзядуля быў малпаю ? Га-ха-ха, няўжо ж?" Тады, як што да мэтаў тэорыі Дарўіна, дык яна, па сутнасьці, намагалася знайсьці гэтак званае "нястаючае зьвяно", якога не хапала ў ланцугу, што злучае чалавека са сьветам астатніх жывёлаў, або, дакладней, Чарлзу Дарўіну не хапала істоты паміж пращчурамі чалавека й сучаснымі чалавекападобнымі малпамі. Ды й увогуле, чаго варта ёсьць радасьць з таннае перамогі над сваімі ўласнымі змысьленьнямі ?

Але ж вельмі падобнае махлярства знаходзіць сабе работу й сёньня, у прыватнасьці, у барацьбітоў супраць псіхааналізу. Нават у нашыя часы можна калі-некалі пачуць: "Фройд думае, што ўсё ёсьць сэксам, га-ха-ха! а мы ж ведаем, і Вы, і я гэтаксама, што гэта — няпраўда". Аднак папраўдзе Фройд усьцяж намагаўся давесьці, хай, як бачым, без асаблівага посьпеху, што, апроч палавога (гэнітальнага), ёсьць колькі іншых шляхоў дасягненьня пачуцьцёвае прыемнасьці, прыкладам, аральнае — праз рот — задавальненьне немаўляці, якое хціва хапае сваім ротам малочную залозу свае маткі, а мы, ужо ў сталым узросьце, аніяк не вызваліліся ад аральнае гратыфікацыі, хай у дарослых яно крыху мадыфікавалася, але яго не цяжка ўбачыць у ядзеньні, піцьці, паленьні тытуню, у замілаваньні да чўінгаму, што яшчэ завецца гумай для жуцьця, як і да балбатні ды ўвогуле да усіх тых актыўнасьцяў, у якіх затруджаны губы ды бліжэйшыя да іх часткі цела. Кожны ведае, што нейкая прыемнасьць ёсьць і ў гэткіх справах, як выдаленьне з арганізму калу й мачы, хай ці не палову свайго часу трацім мы на спробы давесьці, што гэта зусім ня так, што Фройд ня мае рацыі, праўда, астатняя палова часу йдзе на згоду з тым, што мы доўга намагаліся зьнішчожыць, але тутака мы губляем гумар і кажам, што Фройд ёсьць нахабным дзядулям, які ня хоча думаць пра нешта лепшае, але толькі адно ведае ды пра адно мроіць.

Дык вось што я маю на мысьлі, кажучы, што часам мы маем глыбінныя матывацыі, што змушаюць нас абараняцца ад празарлівасьці Фройда й пераварочваць тыя альбо іншыя зь ягоных знаходак. Бо ён распавядае нам шмат чаго такога, што мы б хацелі ня ведаць, ды гэта супраць падобных непрывабных праўдаў намагаемся мы змагацца, сягаючы па ўсе вядомыя нам абаронныя прылады, разам з тою ж гатовасьцяй кпіць ды далучыцца да зграі

насьмешнікаў — і мы заўжды з радасьцяй устаем у шыхты бадзёрых паняевернікаў, пакуль нас аб`ядноўвае зь імі тая ж варожасьць да праўды пра сябе, тое ж нежаданьне дасьледаваць сябе, пазнаваць сваю сутнасьць. Тут мы зноў быццам насьлядоўваем тую пакаёўку з прыслоўя. Калі ўжо аналітык нарэшце кажа да яе, што, як яму падаецца на падставе мноства наяўных пасьведчаньньняў, пачцівая дама адчувае пэўныя рэальныя (але зусім праваітыя й законныя) сэксуальныя пажаданьні, дык раззлаваная кабета лаецца на аналітыка, гаворачы, што гэты "брудны стары лайдак" (відавочнае адмаўленьне) хіба што сам мае на ейны конт нейкія брыдкія намеры (праекцыя) — а гэта апошняе выглядае найбольш жахлівым, бо ў аналітыку яна падсьвядома бачыць уласнага бацьку (пацяг да свайго ўласнага бацькі сурова забаронены). Падобна й з хворым на параноййю або з асобай, што пачынае даўжэзныя разважаньні, каб "лагічна" давесьці ўсё, што толькі прыйдзе ў галаву, хай звонку й бачна недарэчнасьць гэткіх рацыяналізацый. А вось псіхапат, у сваю чаргу, няслушна ўважае, што Фройд нібыта заклікае "дзейнічаць па загаду кожнае пабудкі, падпарадкавацца ўсялякаму імпульсу, бо, калі адмаўляць выпадковым матывацыям у паслушэнстве, стаешся нэўротыкам" — і як раз у той момант, калі псіхапат глосіць тую сваю "праўду", псіхааналітыку варта было б паспрабаваць умовіць псіхапату неабходнасьць пакаштаваць паслухмянасьці ў дачыненьні да колькіх жорстка акрэсьленых заказаў ды паспрабаваць сублімацыі — гэта значыць, што псіхапат вінен пераўтварыць "забароненыя" прагненьні ў нешта больш "узьнёслае", вядома ж, падобныя трансфармацыі маюць зьдзяйсьняцца пад цьвёрдым кантролем з боку эга. З усяго вышэйузгаданага ясна відаць, што спосаб, у які дадзеная асоба скажае тыя альбо іншыя адкрыцьці Фройда, дазваляе дыягназаваць галоўныя рысы асабістасьці тае асобы.

Гэткая выснова падводзіць нас да самае важнае з усіх цяжкасьцей псіхалогіі паводле Фройда. Ці павінны мы мяркаваць, што стаюцца страхатліва хворымі ды трацяць розум з поваду мілых, бязпечных, таварыскіх спраў, пра якія мы пры нагодзе любім пагаманіць у безклапотным, утульным асяродзьдзі? Не! Чалавек робіцца вар`ятам з прычыны сапраўды балючых цяжкасьцей на ўзор забароненых інцэставых пабудак, глыбока захаваных несьвядомых гомасэксуальных жаданьняў, забойчага гневу ды падобных да гэтых нябачных прагненьняў. Усе мы маем у сабе забароненыя пажаданьні, хацелася б спадзявацца, што яны не занадта моцныя і таму зь імі можна неяк суіснаваць, можна даць ім рады; але адсюль і зьяўляецца гэтая нашая ўстрывожанасьць, што немінуча ўздымаецца па паясьненьнях Фройда, і адкуль бярэцца нашае імкненьне сягнуць па розныя абаронныя мэханіз-

мы, што з рэгулы, узрываюцца гвалтоўныай спрэчкай. На гэтым мейсцы выпадае ўзгадаць Шэкспіра: "Як на мяне, дык абураецца спадарыня збыт гучна", — або, калі вярнуцца на раднейшую глебу: "Дзе дым, там і полымя".

Фройд першым усказаў быў на тое, што сёньня падаецца шмат каму відавочным, менавіта, што, апроч гэнітальнае, існуе яшчэ й колькі іншых зонаў на целе, кожная зь якіх у стане прыносіць пачуцьцёвыя асалоды, і тыя зоны, фактычна, пачынаюць, так бы мовіць, працаваць у часе раней за сэксульнную гэнітальную зону, ды й фізіялагічная вага ў іх таксама большая. Распарушаны па паверхні усяе скуры эратызм дае сябе заўважыць яшчэ ў вельмі несапсаваным узросьце, хай у людзей гэтая зьява верагодна не мае тае яскравасьці, што бачна ў ніжэйшых жывёлах. Ёсьць таксама пэўная пазітыўная, ды іншым часам інтэнсіўная прыемнасьць у назіраньні й слуханьні, у нюханьні й дотыку, й смаку. Але аніякая зь іх ня ёсьць першаснай асалодай у чыста й сьцісла лібіданозным сэнсе. І толькі таму, што захоўваюцца рэшткі ранейшых балючых дасьведчаньняў, пакутлівых завіласьцяў назапашаньня жыцьцёвых уменьняў, перабольшаныя апраўдваньні альбо прыцісьненьні гэткіх лібіданозных прыемнасьцяў, гэтулькі людзей гэтак апантана аспрэчваюць само йснаваньне падобнае лісты задавальненьняў; а як ужо пярэчыць фактам немагчыма, чаму перамога такіх палемістаў ёсьць справай надзвычайнай ды ненадзейнай, дык яны намагаюцца аспрэчыць выключную першаснасьць гэнітальнае ўцехі. А калі ўжо прэгэнітальнае задавальненьне ёсьць заўжды часткай гэнітальнае перадпрыемнасьці (пацалункі, заглядваньні й разглядваньні, пяшчотныя дотыкі й г.д.), дык гэткае папярэджваючая асалода стаецца нібыта канспэктам або скарачоным, сьцісльм выкладам гісторыі лібіда, аповесьцяй пра разьвіццё гэтага пачуцьцёвага аспэкту ды своеасаблівай аўтабіяграфіяй з узгадваньнем таго, як і калі адбываліся зьмены ў параўнальнам вартасьціваньні адных альбо другіх радасьцей жыцьця дадзеным асобнікам.

Першаснымі абшарамі прыемнасьці на паверхні цела — зонамі лібідо — стаюцца розныя кавалкі скуры; з рэгулы, гэта — адцінкі скуранное пакрывы блізу тых пунктаў, праз якія арганізм камунікуе са зьнешнім асяродзьдзем, дык зразумела, што задавальненьне, што нараждаецца ў гэтых цялесных партах, бярэцца з пасьпяховага здзяйсненьня пэўнае адаптыўнае фізіялагічнае павіннасьці альбо патрэбы. Калі мовіць пра немаўля, дык пакуль ягонай дыетай застаецца малако маткі, першаснай зонай будзе дзелянка навокал роту — аральная зона, дзе лібіданознай прыемнасьці таварышыць задавальненьне першаснае патрэбы дзіцяці, якое вінна зацягнуць нешта звонку й расьці; потым да гэтага працэсу "аральнае інкарпарацыі" далучаюцца, у якасьці пама-

гатых, вока й вуха. І калі глядзець у зваротным кірунку, нармальная жанчына гэтаксама адчувае глыбокае фізічнае задавальненьне, жывячы сваім малаком сваё дзіця. Узаемны абмен задавальненьняў-разчараваньняў складаецца ў стракаты спэктар эмоцый, якія лепяць асабістасьць дадзенага асобніка, цалкам ірацыянальна й нявербальна, гэта значыць без удзелу розуму й слоў, а дзіця робіцца, што да ягоных пачуцьцёвых спадзяваньняў на гэты сьвет ды ад сьвету, альбо "аральным аптымістам", альбо "аральным пэсімістам". Пазьней, гэта ўжо як малое пачало хадзіць, гаманіць ды ўвогуле займела нейкага спрыту ў валоданьні сваім целам, самаўладзтва асобніка спатыкаецца й сутыкаецца з вымогамі грамадзтва: гэты канфлікт сацыяльнага зь індывідуяльнай цялеснай аўтаноміяй адбываецца па-над анальнай зонай; астача яго ў форме эмацыянальных таноў, якія застаюцца ў душы бы водгук мінулых непакояў, адыгрывае важную ролю ў асабістым адчуваньні адрозьненьня сябе ад несябе ("тутака — я, а тамака — не") ды ў стаўленьні да пытаньня пра панаваньне-й-падпарадкаваньне, што зьяўляецца потым у шырэйшым сацыяльным кантэксьце. Вучэньне ж мастацтву выдаленьня мачы — "урэтральная дысцыпліна" — стаецца злучанай з пачуцьцямі пыхі, сораму ды амбіцыі. Фалічная фаза, аб якой будзе гутарка далей, хіба застаецца пэрыядам "друкаваньня" сэксуальнае йдэнтыфікацыі, бо якраз на працягу гэтае ступені разьвіцьця адбываецца палавое ўсьведамленьне, "адбітак" якога застаецца ў душы назаўсёды, бо асобнік праецыруе ў сваю псіхіку — робіць інтраекцыю — сьвядомы вобраз сваёй мужнасьці альбо жаночасьці; гэтая фаза ёсьць часам, калі з захапленньнем адкрываюць уласны пол і адчуваюць ягоную вартасьць, калі зьдзяйсьняецца адпаведнае рэгуляваньне сваёй прыналежнасьці да наканаванага полу — праз насьлядаваньне, спаборніцтва, вывучэньне й атаесамленьне (толькі па гэніталізацыі замацаванага замілаваньня да ўласнага полу, гэтая сэксуальная фіксацыя набірае рысаў пэрвэрзіі ды можа ператварыцца ў збачэньне). Фалічнай фазе таварышыць фаза Эдыпа, калі дзіця адкрывае пэўную важную постаць (бацьку) па-за межамі задавальняючай-вымагаючай маткі, якая была заўважальна ў аральнай і анальнай фазах; гэтая навіна стаецца эмацыйнай парадыгмай для ўсіх прышлых суадносін з усялякай грамадзкасьцяй пад знакам суперэга; прыкладам, стаўленьне асобы да рэлігіі ёсьць чымсьці на ўзор тэста Роршаха зь ягонымі плямамі, рэакцыя на якія з боку дасьледуемага асобніка шмат чаго апавядае аналітыку пра асаблівасьць паддосьледнага — гэтак і асабісты падыход да рэлігійных пытаньняў сьведчыць аб адрозьненьнях прыватнага вырашэньня эдыпавага канфлікту, а яно ёсьць тым падмуркам, на якім будуюцца ўсе рацыянальныя альбо рацыяналізаваныя суперструктуры інэлектуальнага характару (вайна, палітыка й г.п.).

Псіхалагічная фаза гэнітальнае першаснасьці стаецца апошняй з усіх фаз. Аднак, нельга, канешне, мысьліць аніякую з тых стадый разьвіцьця чымсьці накшталт чыгуначных станцый, на якіх затрымоўваецца цягнік лібідо, — не, усе яны ў пэўным стопні супрацоўнічаюць, суіснуюць, сьплятаюцца адна з адной ды, у нейкай форме, захоўваюцца й па пераходзе разьвіцьця ў наступную фазу; але ж у бальшыні асобнікаў бачнай ёсьць выразная пасьлядоўнасьць: фазы па чарзе зьмяняюць адна адну.

Кажуць: "Лупі малое па хрыбту, каб гарбатым вырасла", і яшчэ кажуць: "Куды прарастак нагнеш, туды й дрэва пахіліцца" — ці ж мала падобных выразаў існуе, каб было дзеля чаго мяньціць языкамі? Але псіхааналіз ставіцца да гэткіх фразаў сур`ёзна, разумеючы іх літаральна. Вось, мусіць быць пэўны "паростак" — фізычнае цела ды нэрвовая сістэма дзіцяці; тую "галінку" нахіляюць зьнешнія сілы й таму расьце яна пахіла, скажона; а спосаб, у які зайшло "пахіленьне", будзе відочным і пазьней, шчыра адкрываючы сябе ў наяўных сімптомах. Псіхааналіз указуе на асаблівыя часткі цела чалавечага, якія набіраюць значнае вагі ў засваеньні спосабаў прыстасаваньня ды неабходных фізіялагічных уменьняў, што адбываецца шляхам навучэньня, калі посьпех узнагароджваецца прыемнасьцяй; псіхааналіз занатоўвае характэрыстычныя рысы асяроддзя, у якім жыве чалавек, першаснымі зь якіх будуць матка з бацькам; псіхааналіз вызначае сувязі патрэбаў цела (ід) са сьвядомым розумам (эга) ды паміж эга й грамадзтвам (суперэга) і фізічным сьветам (рэальнасьць). Прыймаючы гэткія простыя пастулаты, псіхааналіз ніколі не стамляецца ў пошуках караларыяў да іх, якімі б трывожнымі й зьдзіўляючымі не падаліся атрыманыя высновы. Псіхааналіз ёсьць пазітывістычным, эмпірычным, фэнамэналагічным а канкрэтным.

Індывідуальная асабістасьць, выходзіць, ёсьць, паводле псіхааналітычнае псіхалогіі, пэўнай пабудовай, у якой уцелесьнены ўсе дасьведчаньні эга, якія ім паназапашаны былі падчас ягоных спатканьняў з вышэйузгаданымі й іншымі складовымі часткамі псіхалагічнае рэчаіснасьці. Кожная наступная псіхалагічная фаза вызначаецца кожнай папярэдняй; прыкладам, аральныя ўзнагароджаньні-й-расчараваньні з пэўнасьцяй уплываюць на працэс засваеньня сацыяльнай дысцыпліны падчас анальнага пэрыяду; у сваю чаргу, анальнае бунтарства здольным ёсьць перацячы ў канфлікт Эдыпа, неяк афарбоўваючы яго; гэтаксама вырашэньне фалічна-Эдыпавых праблемаў глыбока, да самага дна, акрэсьляе гэнітальную канстытуцыю асобніка, усе суадносіны асобы зь ейнай сэксуальнасьцяй.

Больш таго, кожны нэўроз, кожны псіхоз ды кожная псіхапатыя ёсьць пэўнай буйнай фіксацыяй на нейкай ступені ўзросту або рэгрэсіяй да гэткае фазы разьвіцьця. а само йснаваньне

забурэньня ўзгаданых гатункаў ёсьць павядамленьнем пра яшчэ нявырашаны, бо ўсьцяж дакучаючы канфлікт (толькі цяпер прыгнечаны), да таго ж, часьцей, чалавек церпіць ад колькіх застарэлых канфліктаў зараз; інакш кажучы, псіхічнае забурэньне ёсьць супольнасьцяй прэгэнітальных фазаў. Дык вось, шызафрэнія ёсьць нястачай лібіданознае рэальнасьці зьнешняга сьвету, бо шызафрэнік адмовіўся быў засвояць яе ў выніку зфрустраванасьці ў аральнай фазе, калі яго чамусьці разчаравала задавальненьне ягоных першасных патрэбаў або неад`емная ад аральнае фазы залежнасьць — каб неяк узнагародзіць сябе за непрыемнасьці, зфрустраваны асобнік набывае звычку мроіць сабе нейкія магічна-сімвалічныя лібіданозныя пацешаньні. Шызафрэнік, гэткім чынам, папросту не дастаў быў патрэбнага каханьня, яго не любілі ды й ён сам не адказваў сваёю любоўю на задавальненьне ягоных патрэб вонкавай рэчаіснасьцяй, бо адчуваў распачліваю адасобленасьць ад маткі — яна ж ня ёсьць блізу, вось яе ўжо няма; выходзіць, што ён павінен зрабіць зь сябе ўвесь сьвет, стацца для сябе суцэльным сусьветам, і ён гэтак і робіць — нарцыстычна й лібіданальна. Шызафрэнію таму гэтак цяжка лячыць, што тут мы маем да чыненьня з вельмі застарэлымі парушэньнямі, бо ж трэба лекаваць траўмы, што замацаваліся на яшчэ вельмі архаічным узроўні фармаваньня эга, тады як пазьнейшае разьвіцьцё, у лепшым выпадку, калі й адбывалася, дык неяк ненадзейна й патурбавана, што азначае пэўную пакамечанасьць і пазьнейшых фазаў; забурэньне на прэвэрбальным аральным аб,ектным узроўні (гэта, калі дзіця яшчэ не размаўляе, але ўжо пачынае адрозьніваць адну рэч ад нейкае другое) мае, паміж іншага, яшчэ й той скутак, што ў шызафрэніі менавіта занадта цяжка даецца звычайны людзкі кантакт з тэрапэўтам. А вось алкаголікі, якія часта ёсьць літаральна "бутэлячнымі дзіцяткамі", што ўвесь час настойліва шукаюць тае цудоўнае магутнасьці, якую дае пляшка з вадкасьцяй — некалі немаўля зачаравана было здольнасьцяй плыннага рэчыва магічна павялічваць дзіцячую сілу, і так яно й засталося, праўда, цяпер магутнасьць, якую бярэ алкаголік з магічнага напою, робіць яго неяк двухсэнсоўна й падазрона кабечым і мужным адначасова. З рэгулы яны жэняцца з жанчынамі, якім вельмі хочацца панаваць, што адбіваецца ў жаданьні прыдбаць нейкі фалас, але без мужчыны, што знаходзіцца па-за гэтым органам, — у выніку такая спадарыня дастае належнае: алкаголік карае яе сваім правакатӑыўным інфантылізмам. Алкагалізм часткова даецца вытлумачыць забурэньнямі аральнага пэрыяду, але курацыя яго шмат лягчэйшая ў параўнаньні з шызафрэніяй, бо ў душы алкаголіка часта можна знайсьці вынікі больш-менш моцнага й здаровага сталеньня на працягу пазьнейшых стадый, дык тэрапэўт мае з чым працаваць і

на чым будаваць.

Зь неадчэпнымі, зацятымі апантанасьцямі, якія, у бальшыні, зафіксаваны былі на анальным узроўні, працаваць неяк менш уцяжліва, чым з шызафрэніяй, бо ў апантаных маньякаў куды больш сталае эга; але яны гэтаксама яшчэ занадта ўцягнуты ў магічна-сімвалічнае мысьленьне, мяжы эга ў іх — параўнальна кволыя й крохкія, але яшчэ й таму яны старанна й моцна супрацiўляюцца ўплыву з боку іншае асобы; апантаныя натрэнтныя ідэямі настойліва працягваюць сваё змаганьне за цалкавітае авалоданьне ўсім сьветам, за асабліваю анальную ўсемагутнасьць, быццам адзінай рэчаіснасьцяй ёсьць цела й тое, што ў целе знаходзіцца. Маніякальная дэпрэсія ёсьць чымсьці на ўзор мітусьлівага вобразу сябе, — гэты вобраз засвоены быў ад амбівалентных бацькоў у часы найранейшых аральна-анальных ды іншых кшталчэньняў, але таму, што бацькі не былі выразна акрэсьленымі, у прыватнасьці, сэксуальна, тонусы суадносін суперэгаэга атрымаліся вельмі нятрывалымі, няўстойлівымі; дэпрэсія ёсьць больш падатлівай на тэрапію, чым манія, бо дэпрэсіўны, прыгнечаны сумам чалавек лягчэй успрымае зьнешнія ўплывы, ня гледзячы на слабасьць эга ў дэпрэсіі, тады як у маніяка, у памешанага вар`ята эга ўзносіцца па-над усімі абмежаваньнямі, каб лётаць вышэй усіх ланцугоў. Паранойя — гэта (звычайна ў мужчын) бітва за бацькаву ўсемагутнасьць ды бацькаву любоў, што гэтак моцна адбілася на архаічным узроўні — параноік ваюе за тое, каб яго ўсе баяліся й усе любілі. Гістэрыя (зазвычай у жанчын) ёсьць афарбаваным аральна фалічным канфліктам дзеля валоданьня бацькам (змаганьне йдзе, паміж іншага, з маткай); адсюль бярэцца ў гістэрыі гэткае багацьце аральных фантазій наконт цяжарнасьці (на ўзор змысьленьняў пра дзіця ў страўніку), як і anorexia nervosa* ды другія складанасьці з жываньнем і гэтак далей — аднак гістэрыя параўнальна лёгка лечыцца, бо тут ужо йснуе падатнасьць на ўмаўленьні й уплывы ды згода на бацькаву ўладу або на аўтарытэт кагосьці, хто нагадвае бацьку. (Фройд напачатак ужываў гіпнозу супраць гістэрыі, але вырашыў, што аднае толькі "сімптаматычнае" або "трансфэрнае" — калі лекару "перадаецца" стан хворага — курацыі належыць ужываць, каб спадзявацца на нейкі вынік, калі ўжо сьвядомае эга пацыента ня ўдзельнічае; тым не менш, ён здолеў быў навучыцца шмат чаму ад гістэрычных асобаў, на самым парозе сваёй кар`еры). Збачэньні ж — гэта фіксацыі з фалічнага пэрыяду, якія можна вы-

---

* Адмаўленьне ад ежы, якое ператвараецца ў агіду да кожнае стравы: хворы (звычайна, дзяўчына на дыеце) можа нават памерці з голаду хай аніякае фізічнае хваробы й няма. — *Заўвага перакладчыка.*

значыць з дапамогай слоўніка тэрмінаў для аральнае, анальнае й іншых перадгэнітальных зонаў; збачэньні адлюстроўваюць "гэніталізацыю" таго лібіда, якое ў аснове сваёй ёсьць аральным альбо анальным. І, нарэшце, псіхапатыя — гэта ёсьць пэўная паталогія суперэга, у якой адлюстроўваецца няпоўнае, бо толькі частковае, атаесамленьне зь нейкім бацькам, які быў (а, магчыма, застаецца) нянавісным калісьць (а можа й бацька адчуваў нянавісьць); зразумела, тэрапэўт трапляе на ўбудаваныя абцяжэньні й перашкоды, працуючы з псіхапатамі.

Гэткія "чыстыя тыпы" класічных сіндромаў, вядома ж, зьмешваюцца — у кожнага хворага відочны сімптомы колькіх "чыстых тыпаў", бо ж няма нічога, што б перашкаджала стварэньню ўнікальнае йдыясінкразіі ў выглядзе непаўтаральнага сузор'я лібіданозных траўмаў, назапашаных за жыцьцё; маючы гэта на ўвазе, псіхааналітыкі клапоцяцца больш не пра шуфлядкаваньне асаблівых выпадкаў забурэньня, але намагаюцца зразумець дынаміку сімптомаў кожнага асаблівага казусу хваробы. У адрозьненьні ад усіх вышэй апісаных тыпаў, "гэнітальны характар" — натуральна, ён гэтаксама ня больш, чым абстракцыя, у выглядзе "чыстага тыпу" яна не спатыкаецца, бо ж няма чалавека, які не спаткаў цяжкасьцяў на завілым шляху сталеньня — ёсьць нагэтулькі спрытным, што нібыта ў стане мець па дзьве скуры з аднае авечкі або адначасова мець й некранутыя пірагі, і разкашавацца імі, тымі лібаданознымі стравамі. Як ён ужо "амфіміктычна"* прайшоў праз усе ступені ўзрастаньня, назапашаючы пры кожнай нагодзе вартаснае дасьведчаньне, дык у дарослым стане "генітальны асобнік" ёсьць у стане мець радасьць зь ежы, напояў, а таксама людзей, без таго каб прыемнасьці таварышыла нешта пабочнае ды перакручанае зь ліку тых ірацыянальных складовых скасаванае віны й прыпятае псіхічнае энэргіі, якія свавольна бушуюць у несьвядомым. Сталая асоба здольна мець сьвядомыя асалоды са здаровага карыстаньня ўсімі чыннасьцямі цела без адчуваньня варожасьці да грамадзтва, быць дарэчна ваяўнічай або адпаведна прыстасоўвацца, у слушных прапорцыях і ў залежнасьці ад кантэксту, ды дасягаць поўні мужнасьці або жаночасьці без пачуцьця страху перад пагрозай пашкоджаньня цела як выніку ягонага выкарыстаньня. Сталая, насампраўдзе дарослая асоба ўмее любіць, бо таму яе навучылі кахаючыя бацькі, на якіх гэты сталы чалавек сёньня глядзіць рэалістычна —

* Штучнае слова, сэнс якога — удалае прыстасаваньне да асяродзьдзя пры вельмі ўдалым двухбаковым абменам зь ім. Калі перакладаць абодва карані слова, выходзіць нешта на ўзор адначасовага знаходжаньня ў двух навакольлях з аддачай у навакольле й узяцьцем зь яго (плыць па вадзе, піць ваду й аддаваць мачу ў ваду). — *Заўвага перакладчыка.*

гэта значыць, што яны, у ягоным поглядзе, выглядаюць, як асобы, а не нейкія пагрозьлівыя вобразы з драмы зь ліку тых, што пішуцца ў дзяцінстве. Фройд дае наступнае азначэньне дарослага чалавека: сталым ёсьць чалавек, які здольны да працы й да любові, бо праца нам належыць, каб можна было сублімаваць усе нашыя прэгэнітальныя патрэбы, а гэнэтальныя патрэбы можна выявіць упрост, непасрэдна ў каханьні.

Хаця кожная непрыемная здагадка, якая непазбежна вынікае за пранiклівым або, прынамсі, уважлівым спазіраньнем, з дапамогаю ягоных скрайніх разгалінаваньняў, у шмат якія разнастайныя асаблівасьці асобніка, робіць псіхааналіз як уцяжлівым для розуму, гэтак і няўтульным для пачуцьцяў і настрояў. Фройд настойліва сьцьвярджае, што складанасьць, камплексовасьць ёсьць неад,емнай рысай усялякіх дадзеных пра людзей, якую аніяк ня трэба занадта спрашчаць, бо ж гэта існуе. Больш за тое, Фройд далей заўважае, што амаль усе псіхічныя падзеі ёсьць "Звышнаканаванымі", яны — "занадта дэтэрмінаваны". Ён меў на мысьлі тое, што кожная падзея ў жыцьці чалавечае душы мае не адзіны повад, але колькі складаных — комплексных — прычынаў, якія дзеюць разам, хай і не аднолькава. Тая комплекснасьць бачна ў зьяве "згушчэньня" або "кандэнсацыі", якая можа адбывацца ў адзіным сімвале ў сне (вось яшчэ адзін довад супраць паблажлівасьці ды легкадумнага адвольнага стварэньня тлумачэньняў пры першай лепшай нагодзе). Менавіта, гэты адзіны сімвал, які сабе сьніць чалавек, выказвае таемную й нават жудасную здольнасьць, назапашаць — "кандэнсаваць" — мноствы рознастайных значэньняў, што гэтак уражае, калі гэткія завіласьці выцягваюцца на паверхню плыняй вольных асацыяцыяў.

Звышдэтэрмінаванасьць і кандэнсацыя робяць цьверджаньні пра адзіную прычыну звышспрошчанымі ды, верагодна, памылковымі. Таму тыя, хто настойвае на думаньні ў тэрмінах аднапрычынных формулаў, гэтак лёгка ў сваіх спрэчках і змаганьнях ставяць перад сабою пудзіла, а потым лёгка зьнішчаюць яго, — ну й чаго варта перамога над праціўнікам з саломы? Але ж кожны асобнік носіць у сябе нейкую неаднастайную завіласьць — комплекс — прычынаў, хай складовыя прычыны могуць адрозьнівацца адна ад адной ды працаваць у розных людзей у розных кантэкстах. З таго выцякае, што знаходкі псіхааналізу цяжка абагульняць, бо ж кожны выпадак ёсьць нейкім чынам адзіным, унікальным. Зусім інакш з тым атамам пэўнага ізатопу кіслароду, які паводзіць сябе гэтаксама, як кожны іншы атам таго ж ізатопу; гэта значыць, што яны быццам не адрозьніваюцца адзін ад аднаго, альбо, як кажуць, адназначна параўнальны або ўзаемаадпаведны, і таму выпадае сэнсоўна разважаць пра атамы з дапамогаю лічбаў, бо ж лічбы насампраўдзе здольны падсумоўваць і абагульняць,

але толькі параўнальныя рэчы. Тыя ж, хто, маючы да чыненьня са складанымі дадзенымі, аблудна намагаюцца абадраць з гэткіх комплексных супольнасьцяй усе завіласьці, каб дапяцца да нейкага лічбовага касьцяка, непазбежна спатыкаюць расчараваньне на прыканцы шляху, бо ж словы й сэнсы сэмантычна аніяк нельга панізіць да ўзроўню лічбаў: дэнатацыі й каннатацыі, адзнакі й прызначэньні — бязьмежна багатыя, на ўзор нейкага псіхіатрычнага "комплексу". Дык вось, псіхалагічныя дадзеныя больш падобныя да слоў, чым да лічбаў. Людзі, якім падабаецца мысьліць словамі, — як кажуць, вэрбальна арыентаваныя, — выяўляюць больш спрыту ў абыходжаньні зь псіхааналітычнымі дадзенымі, чым нумэрычна арыентаваная асобы (тыя, каму да густу лічбы), чаго й належала спадзявацца. Тэмпэрамэнты, схільныя да мысьленьня лічбамі, мусяць, хіба, набіраць вялізнага нясмаку ў дачыненьні да псіхааналізу, — вядома ж, з "чыста навуковых" пабудак. На вялікую шкоду зьмест Эдыпавага канфлікту, прыкладам, здольны ледзь не да знуджэньня захоўваць нейкую цягласьць, бо ён можа амаль не зьмяняцца ад аднаго з мноства пацыентаў да наступнага, аднак, тым ня менш, кожная асоба застаецца ўнікальнай у сваім комплексе.

Гэткім абагульняючым формулам, што зраджаюцца, магчыма, у аналітыка, аглядаючага сусьветную паўсюднасьць Эдыпавага комплексу ў людзей, — па-за межамі ўздымаючага непакой прыроды гэтага комплексу, — мусіць бракуе, хіба непазьбежна, тае звышмоцнае і ўсеабдымнае пераканальнасьці нязьлічонага мноства неаспрэчных падрабязнасьцяў, што кідаюцца ў вочы ў кожнам асобным і асаблівым выпадку. Хай нават не кожную асобу даецца прынамсі пераканаць ў існаваньні чагосьці на ўзор Эдыпавага комплексу, каб гэтая асоба эмацыйна паверыла ў рэальнасьць гэткае незвычайнае зьявы, бо чалавеку, можа, напачатак трэба сутыкнуцца зь ёю ў сабе, на што патрэбны нейкі аналіз — ва ўсялякім разе застаецца халодны інтэлектуальны факт: <u>кожная вядомая група людзей мае ў сваім складзе нуклеарныя сем'і й прытрымліваецца табу на інцэст унутры сям'і.</u> І калі яшчэ даецца нейкая згода на нейкую антрапалагічную праўду, дык куды цяжэй успрыймаць псіхіятрычныя наступствы таго ж факту. Але кожнай людзкой істоце наканаваны ёсьць лёс, абцяжаны Эдыпаўскімі завіласьцямі, хай нават кожны адзіны Эдыпавы комплекс ёсьць у чымсьці непаўторным, унікальным. Рэч аніяк ня ў тым, што аналітыкі быццам саромеюцца лічбаў зь нейкіх таямнічых прычынаў, бы гэткія містыкі-антынумэралісты, але ж папросту іхнія дадзеныя не падпарадкоўваюцца спрашчаючаму рэдукцыяналізму. Аналітыку нават здаецца, што спрашчэньне, рэдукцыяналізм скажае ягоныя дадзеныя, таму што менавіта рухомы ўзор, дынамічная канфігурацыя ёсьць тым, што мае значэньне, вартае ўвагі. А калі

пачаць лічыць непаўторныя ўнікальнасьці, дык будзе губляцца ўсьведамленьне іхніх розназначэньнёвых сутнасьцяў.

Калі ў звычайным чытачу яшчэ не прачнулася адпорнасьць, абуджаная нашым беглым аглядам дынамікі рознастайных нэўрозаў, псіхозаў ды псіхапатыяў (бо ж яму не ўласьціва нішто з узгаданых дынамік, хай у няздольным да чыну або пазбаўленым твару стопні), ды калі ён, гэты нармальны — бо ўжо не выпадае казаць на яго: звычайны — чытач здолеў вытрымаць нашае безкампрамісавае сьцверджаньне рэальнасьці Эдыпавага комплексу (які існуе, па сутнасьці, у кожнай чалавечай істоце), дык усё ж, спадзяемся, мы дасягнем свайго ды зробім факт супраціўленьня псіхалагічна патрэбным чытачу, пачаўшы разглядаць цяпер новы матэр,ял, які з пэўнасьцяй павінен узьняць непакой у душы чытача, таму што мова будзе пра яшчэ адзін унівэрсальны комплекс. І тэма — вельмі далікатная, бо закранаецца абшар усеагульнага дасьведчаньня, дзе кожны з нас спазнаў быў востры боль і які дасюль застаецца балючым для шмат каго з нас. Гутарка будзе пра комплекс кастрацыі, хаця ён у самцоў не такі самы, як у самак.

У нейкі час, калісьці на прыпачатку жыцьця, кожны малы хлопчык і кожная малая дзяўчынка стаюцца сьвядомымі наконт фізічных адрозьненьняў супрацьлеглага полу. Для хлопчыка гэта значыць, што ёсьць такія асобы, у якіх няма таго, што ёсьць у яго, менавіта, зьнешніх гэніталіяў, дык выходзіць, што стварылася сітуацыя, якая, як яму здаецца, паўстала толькі таму, што тыя, непадобныя да яго асобы, павінны былі неяк згубіць гэткую "нармальную" й успрыймаемую хлопцам, як нешта натуральнае, небам пасланае, частку ягонага цела, якая, да таго ж, ужо прыносіць яму прыемнасьці. З гэткае нястачы вынікае палохаючая мажлівасьць: ага, дык яго ж таксама можна пазбавіць таго ж, што страцілі тыя, іншыя, ці то ва ўкараньне за пажадаваньні, якія ў ім уздымаюць пачуцьцё віны, ці то як пакараньне за забароненыя прыемнасьці. Як ужо на целе ёсьць колькі абшараў прыемнасьці, дык пагроза кастрацыі робіцца часткай шырэйшае "боязі адлучэньня" ад крыніцаў задаволеньня патрэбаў і ўзнагароджваньня, Калі ён нараджаўся на сьвет, ён спазнаў балесную "траўму нараджэньня", губляючы назаўсёды цалкавітае задаволеньне ўсіх ягоных патрэбаў ды надзейную ахову, якія былі ў яго, пакуль ён заставаўся ў фізіялагічным Раі, і якія ўспрыймаліся ў той час чымсьці належным, як мага болей натуральным; у тым страчаным Эдэме кожнае ягонае мэтабалічнае пажаданьне абавязкова й безперапынна ўзнагароджвалася й задавальнялася. А цяпер трэба было вучыцца новым спосабам акісьленьня крыві, падтрыманьня патрэбнае тэмпературы цела, жывеньня й выбаўленьня ад адпадкаў мэтабалізму (магчыма, колікі ў зноўнароджаных нямаўлятаў спатыкаюцца гэтак часта таму, што вельмі цяжка адразу

засвоіць мудрагелісты працэс страваваньня). У якасьці нейкае кампэнсацыі маці запрапанавала яму сваё малако, але з гэтага выйшла яшчэ адна пакутлівая страта, калі па пэўным часе малое сталі адымаць ад грудзей. Потым, ён вінен быў прайсьці праз туалетны трэнінг, каб засвоіць не збыт захоплена вітаную дысцыпліну даваньня рады з тым, што зьмяшчаецца ў целе чалавека — а вось цяпер зноў паўстае верагоднасьць развітаньня яшчэ й з роднымі й даючымі прыемнасьць гэніталіямі (ясна, што кастрацыя для хлопчыка мае сэнс страты менавіта пэніса, пра тэстыкулы й мовы няма).

Што да малое дзяўчынкі, дык ёй сэксуальная розьніца здаецца знакам нейкага мінулага няшчасьця: ці то яе калісьці нясумленна пакрыўдзілі, ці то пакаралі за нейкую правіннасьць. Таму яна адчувае сябе абрабованай, паніжанай і зайздроснай, а разам з тым яна можа мроіць пра тое, што гэты орган аднойчы неяк вернецца, а мо вырасьце нейкім чароўным чынам. Відовішча крыві ў мэнструацыі з рэгулы спрыяе вяртаньню й адраджэньню жаночага комплексу кастрацыі напачатку перыяду палавога дасьпяваньня, калі яна можа зноў адчуць жахаючую напалоханасьць, убачыўшы гэткае новае "пацьверджаньне" ейнага "калецтва". Да таго ж няўрымсьлівасьць патоку крыві, калі плынь не паддаецца спробам кіраваньня, ня толькі страшыць дзяўчыну, але й, часам, вядзе да паўтору ды аднаўленага насіленьня праблемаў з вывучэньнем гігіены, і тады ажыўшыя ўспаміны абуджаюць сорам. Жанчына можа зноў адчуць нейкую глыбінную пагрозу верагоднага пашкоджаньня ўласнага цела падчас палавога злучэньня або нараджэньня дзіцяці. (Мужчыны гэтаксама могуць адчуваць жах перад магчымасьцяй пашкоджаньня сваіх гэніталіяў падчас сэксуальнага спалучэньня, што знаходзіць свой выраз у фантазіяваньні наконт "vagina dentata"* ды ўвогуле ва ўсялякіх разважаньнях пра небязпечнасьць жанчын). Як ужо яна заўжды мае пры сабе тую сваю дамнеманую "абрабаванасьць", дык жанчыны стаюцца здольнымі зноў прыдбаць памяць пра дзіцячую "зайздрасьць да пэніса", хай і праўда, што шмат у якіх жанчын гэты комплекс прыгнятаецца й вельмі рана стаецца здушоным, выходзячы на паверхню хіба толькі ў розных ірацыянальных сімвалічных патрабаваньнях, — прыкладам, кабета можа захацець, каб яе трактавалі бы як мужчыну. "Бабскае зухвальства" не мае анічога агульнага да страчаньня; між іншага, яна заўжды ў стане выкарыстаць усе перавагі, якімі яна валодае падобна кожнай жанчыне.

У самцоў, аднак, з тае акалічнасьці, што пашкоджаньне або згубленьне зьнешніх гэніталіяў ёсьць у іх заўжды рэальнай ды жахаючай імавэрнасьцяй, мужчынскі кастрацыйны комплекс ёсьць.

---

* Похва (вагіна) з зубамі (лац.). — *Заўвага перакладчыка.*

што вельмі характэрыстычна, моцна прыгнечаным і ўціснутым у самыя глыбокія нетры душы. Пакутлівасьць і ўцяжлівасьць мужыцкае моцы й адвагі мае сваім вытокам тую праўду, што мужчыне наканавана назаўжды заставацца жудасна безабаронным і да далікатнасьці ўражлівым на ўсялякія палохаючыя магчымасьці. Кастарцыйны комплекс у самцоў часам набывае яшчэ складанейшай завіласьці, дзякуючы яшчэ мацней прыгнечанам й загнаным ў яшчэ глыбейшыя прадоньні падсьвядомасьці пачуцьцям пакрыўджанасьці ё зайздрасьці ў стаўленьні да жанчын і жаночага лёсу, — мужчына зайздросьціць вялізнай упэўненасьці кабеты ў належнасьці ёй права на дазволеную пасыўнасьць і аніяк не ганьбячую залежнасьць ад другіх, тым больш, што й ён сам, у малых хлопчыках, разкашаваў калісьці падобнымі ж выгодамі, але потым мусіў быў памяняць безклапотнае дзяцінства на куды больш небязьпечную, бо патрабуючую ваяўнічае спаборчасьці актыўнасьць. Яшчэ сустракаецца зайздрасьць да жаночых грудзей, хай зазвычай выпадае мовіць пра нейкія сьляды яе, але, ва ўсялякім разе, ён неяк цьмяна адрозьнівае магчымасьці гэтага органу даваць прыемнасьць, якая, як ён спадзяецца, чымсьці падобная на радасьці валоданьня пэнісам; і ён нават гэтаксама зайздросны здольнасьці самкі прыдбаць сабе дзіця, пра якое абодва полы вельмі рана пачынаюць мроіць, выдумляючы свае фантазіі з дапамогай аральна-анальных дасьведчаньняў, набытых целам, пакуль яно знаёмілася з узгаданнымі й іншымі зонамі, — хай летуценьне й пра нешта невядомае, але летуценьнік марыць, гэтак бы мовіць, у тэрмінах назапашанага вопыту. Жудаснасьць мужчынскае зайздроснасьці ёсьць небязьпечнай таму, што калі-некалі яна можа пераўтварыцца ў пачварнае жаданьне скончыць з усім тым раз і назаўжды, цалкавіта адсякаючы ўсю праблему; і ўжо вядома пра колькі выпадкаў, калі мужчыны хірургічна зрабілі сябе "жанчынамі".

Нармальны дарослы, ва ўсялякім выпадку, імкнецца набыць сабе нейкую "пару". І гэта — не бязглуздая й пустая мэтафара, але як найсапраўдзіўшая псіхалагічная рэальнасьць. Мужчына ж прыдбае нявычарпальную крыніцу пыхі й самалюбнае фанабэрыі, ён можа выцягваць нязьлічоныя довады ў пацьверджаньне сваёй высокай вартасьці з таго, што пашанцавала ж займець у "маёмасьць" яму, а гэта — жанчына, у якое ёсьць усё тое, чаго яму не стае, і якая ўмее гэткае, чаму ён ніколі ня даў бы рады: жанчыны, напрыклад, здольны якімсьці чараўнічым спосабам стварыць са жмені крупаў ды купкі зеляніны пышны смачны пасілак. Хай сам ён застаецца ранейшым нязграбным шэрым драбам, аднак цяпер існуе мажлівасьць узнагароджваць сябе за прыраджоную сьціпласьць нястрыманым пасіленьнем ейнае жаночасьці, абрынаючы на яе сукенкі, футры, каштоўнасьці, уладкоўваючы супольнае

жытло, што, адначасова, пацьвярджае ягоную пасьпяховую мужнасьць. Ягонае эмацыйнае пашлюбнае атаесамленьне зь ёй можа й надалей заставацца сэксуальным, дык закаханы муж зазвычай адчувае вялікі непакой перад нараджэньнем дзіцяці (і дасюль у прымітыўных людаў спатыкаецца так званая "кувада" — калі муж у самаробнай аматарскай драме ўдае, што гэта ён, а не жонка, "нараджае дзіця"). Сьвядома будучы бацька здольны адчуваць сябе вінаватым — яму няёмка за сваю агрэсіўную сэксуальнасьць самца, бо ж гэта ён "нарабіў гэткае, што яна цяпер гэтак церпіць"; тым часам у ягонай падсьвядомасьці магчыма аднаўленьне ягоных уласных балючых пачуцьцяў: зайздрасьці да жаночае анатоміі, што дае ёй магчымасьць зрабіцца маткай, і кастрацыйнага комплексу. Гэткія адмоўныя эмоцыі здольны дасягнуць нават пункту, дзе пачынаецца літаральна нейкі новы "страх адлучэньня" ад крыніцы радасьці — ён пачынае палохацца, што дзіця адбярэ ў яго ягоны аб`ект прыемнасьці.

У адваротным кірунку назіраецца наступнае: жанчына сімвалічна дастае пэніс у сваім мужчыне. Хай яна і застаецца шчыра жаночай, яна цяпер стала можа карыстацца агрэсіўнасьцю самца ў сваім мужчыне й цягнуць з гэтае акалічнасьці вялізныя, няхай і заступчыя, прыемнасьці. Яна можа ганарыцца ягонымі перамогамі й пакутаваць ад ягоных паразаў (жанчына здольна асабліва пяшчотна атаесамляць сябе з няўдачамі, таму што яна, з уласнага дасьведчаньня, вельмі добра й інтымна ведае боль і страту, бо адчувала тое ва ўласным целе). Дзівосна й забаўляльна нават, але для шмат якіх нармальных жанчын прыдбаньне дзіцяці несьвядома сімвалізуе прыдбаньне пэнісу; з пэўнасьцяй яшчэ й у сынах сваіх жанчына набывае дадатковае нагоды мець сваю заступчую асалоду з мужнасьці, якую яна гэтак старанна намагаецца распаліць у тых мужчынах, якіх яна кахае. Мужчынам, хіба, застаецца толькі слупянець ад тае сапраўды неверагоднае здольнасьці неаспрэчна жаночых жанчын атаесамляцца з укаханымі самцамі, тады як уласьцівая мужчыне мужнасьць, на якую ягоная сьвядомасьць згаджаецца, загадвае яму адмаўляць саму магчымасьць існаваньня ў ягонай душы няўсьвядамляе жаночае кампанэнты, чаму ён і мусіць голасна хваліцца: "Ну, мне аніяк ніколі не зразумець тых кабет!". (Але ж псіхалагічнае бацькоўства ў вельмі вялікім стопні складаецца з таго, чаму мужчына ў дзяцінстве навучыўся ад сваёй маткі, ды, потым, ад іншых жанчын).

Розьніца паміж паламі ня ёсьць, ва ўсялякім разе, небясьпечнай, ці то для мужчын, калі "валоданьне" парай супрацьлеглага полу адлюстроўвае пэўны далейшы амфіміктычны трыўмф. Бо ў "гэнітальным характару", які дасягае трывалага й непалохаючага панаваньня па-над сваёй уласнай сэксуальнай роляй і прыродай, кастрацыйны непакой пераадольваецца. Асобнік адчувае заміла-

ваньне да сваёй павіннасьці йснаваць у якасьці мужчыны альбо жанчыны. А што кепскага ды няслушнага можна знайсьці ў любові да іншага й непадобнага на ўласнае цела, калі асоба кахае чужое цела гэтаксама ж, як свае ўласнае? Кастрацыйны комплекс будзе, вядома ж, выяўляцца ў розных асобніках розным чынам, у залежнасьці ад таго, ці дазнаў, прыкладам, чалавек у хлопчыках адкрытае пагрозы пазбавіцца яго пэнісу, ці то яго так "жартаўліва" дражнілі, ці ж пагроза мела "выхаваўчыя" мэты, бо вінны схоплены быў на спробе мастурбацыі і да таго ж хлопчыка маглі звыш усялякае меры напалохаць бацькі: або спакусьлівая гістэрычная маці, або нестрымана небязпечны й не ведаючы пра літасьць бацька; або — калі мова пра асобу жаночага полу — ці ўпрауду належным чынам дзяўчынку рыхтавалі да першае мэнструацыі ... Увогуле канкрэтная сітуацыя залежыць ад шматлікае арды ўзгаданых і мноства іншых чыньнікаў, у тым ліку сьвядомага й несьвядомага вартасьцяваньняў асобнікам свайго ўласнага й супрацьлеглага полу, ад бацькоўскага стаўленьня да полу дзіцяці, у прыватнасьці , ад спосабу ў які выяўляецца большая сімпатыя да дзіцяці, пол якога ня ёсьць такі, як у дадзенага асобніка з бацькоў, і гэтак далей.

Кастрацыйны комплекс тут стаецца зноў больш выкручастым з прычыны яшчэ аднаго шляху ўцягваньня ў справу бацькоў: мова — пра паўсюдны комплекс Эдыпа (у дачыненьні да самак часта кажуць "комплекс Электры"). Дзіця ці таго, ці другога полу звычайна мае са сваёй маткай стасункі аральна залежнага каханьня (дзіця задавальняе свае патрэбы праз рот, з чаго вынікае ягоная — аральная — залежнасьць ад маці, якая "робіцца ўзьнёслай" — ператвараецца ў каханьне); іншымі словамі, дзіця залежыць ад маці й кахае яе таму, што яна — крыніца ягонага фізіялагічнага задавальненьня. Калі ж пазьней пераможна ўкрачае сэксуальнасьць, дык, у выпадку хлопца, апошні мае разьвітацца са сваім першым аб,ектам любові дзеля захаваньня й замацаваньня ўласнае фізічнае мужнасьці ў працэсе спаборніцтва з больш моцным бацькам — бацька папраўдзе валодае маткай як гэнітальнай маёмасьцяй, у адрозьненьне ад дзіцяці, якое мае маці за алімэнтарную — жывячую, кормячую — сваю ўласнасьць. Дык, пра што ўжо вышэй была мова, хлопец, каб займець мужчынскую паўнавартасьць, ці, як кажуць, дзеля дасягненьня псіхалагічнае гэнітальнасьці, павінен будзе знайсьці сабе заменныя кабечыя аб`екты, гэта значыць, навязаць лучнасьць з іншымі самкамі замест роднае маткі, альбо яму давядзецца цалкам разьвітацца з усялякімі спадзяваньнямі на гэтэрасэксуальнасьць і застацца пры зафіксаванасьці на фалічным узроўні замілаванасьці да свайго ўласнага полу. Тады яму будзе наканавана йснаваньне ў стане гомасэксуала, альбо па-дзіцячаму прымацаванага да маткі й адчу-

ваючага жаданьне кахацца з мужчынамі аральна, бы псэўда-немаўля, альбо ўдаваць з сябе кўазі-кабету, — гэта калі гамасэксуальнае каханьне з мужчынамі здзяйсняецца анальна. Бо каб хлопец стаўся гэткім жа мужным, як ягоны бацька, юнаку трэба заставіць аб`ект бацькавага сэксуальнага каханьня бацьку, а сабе знайсьці нешта падобнае, хай іншае; яшчэ хлопцу трэба будзе памяняць мадальнасьць свайго цела ў дачыненьні да другога полу — пасіўна-аральная (у дзіцяці праз рот) сувязь павінна застацца ў маленстве, каб яе магла заступіць актыўна-гэнітальная арыентацыя магчымага злучэньня з асобай жаночага полу. (Тут зноў выходзіць на яў праўда пра розныя зонавыя мадальнасьці каханьня, бо ж уся й усялякая любоў ёсьць клопатам аб крыніцы лібіданознага ўзнагароджваньня, якога б роду й паходжаньня тая прыемнасьць ні была).

Дзіця дзявочага гатунку, з другога боку, павінна зьмяніць пол свайго аб`екту любові з матчынага на бацькаў. Як ужо яна пацярпела "кастрацыю", дык дзяўчына, звычайна, трапляе, гэтак бы мовіць, бліжэй да ўсьвядамленьня сваіх сэксуальных ураеньняў пра раньнюю закаханасьць да бацькі, які зьяўляецца нямаведама адкуль як новая шмат магутнейшая ахоўная ёе постаць, або, дакладней, як постаць, якая больш надаецца на ролю абаронцы, яшчэ дзяўчынка хутка разумее, што гэта — самец, адзін з тых, хто ў стане даць ёй дзіця. Аднак у вырашэньні "Электрынага" спаборніцтва з маткай — яно менш страхатлівае за хлапечы Эдыпавы канфлікт з бацькам — дзяўчо павінна потым адшукаць іншага самца замест бацькі, каб кахаць таго іншага. Кабечая сэксуальнасьць ёсьць у выніку складанейшай й вытварнейшай. Яна, у дадатак, ёсьць больш таямнічай і старанна хавае сябе, бо ж калі самец ніколі ня ёсьць у стане глосіць абвержаньні або адчуваць няпэўнасьць наконт паўстаньня сваёй сэксуальнай пабуджанасьці, дзяўчына часам сапраўды можа не ведаць, што ў ёй ды зь ёй у дадзены момант адбываецца.

Хлопцам, хіба, даводзіцца ўцягвацца ў куды больш жорсткае змаганьне падчас дасьпяваньня. Яны павінны адыйсьці ад маленства на большую адлегласьць, чым тое выпадае для дзяўчын. Ім трэба шмат што зьмяніць у сваім стаўленьні да жанчын, каб пасіўная залежнасьць вызваліла мейсца для агрэсіўнага панаваньня; і яны павінны безперапынна ўвесь час даводзіць, што яны здолелі былі адбыць мужнае падарожжа й прайшлі ўвесь шлях ад дзіцяці да мужчыны. Аднак каханьне самца да жанчын, калі ўзяць пад увагу факт мацярынства, выглядае псіхалагічна нескамплікаваным і празрыстым. А вось тое, як дзяўчыны прыходзяць да любові да мужчын, падаецца справай больш мудрагелістай, а калі разважаць, прыцягваючы факты пра ўзнагароджваньне патрабаваньняў ранейшага дзяцінства, дык яшчэ й

занадта цьмянай, бо больш незразумелай, чым мужчынская любоў да жанчын альбо жаночая любоў да ейнае ўласнае жаночасьці, — абедзьве атрыманы ад маці. Чаму мужчыны кахаюць жанчын — гэта аніякая ні задача: яны ж кахалі сваіх матак. А вось навошта жанчынам кахаць мужчынаў — пытаньне больш, чым праблематычнае. Часам на яго прабуюць адказаць дапушчэньнем, што, маўляў, дзяўчына папросту пераносіць сваю дзіцячую залежнасьць з маці на бацьку. (Але навошта? Чаму? Ці то таму, што ён ёсьць мацнейшым, дужэйшым ды больш надаецца на ролю ўладальніка, ахоўніка й абаронцы, чым абедзьве жаночыя постаці, маці й дачка? Ці таму, што ён, як самец, выглядае больш кахаючым і больш паблажлівым у сваім стаўленьні да дачкі, чым маці?) Іншае мяркаваньне глосіць, што жанчыны кахаюць мужчын, таму што ў апошніх ёсьць нешта, чаго няма ў кабет, альбо таму, што толькі мужчына здольны даць ім дзіця. Хай так, але ж гэткае тлумачэньне, як, дарэчы, колькі іншых, дае падставы абвінавачваць псіхааналіз у засяроджаньні на патрэбах і мяркаваньнях самцоў, вось, маўляў, яшчэ адна арыентаваная на мужчын псіхалогія, бо ж жанчыны ёсьць не папросту не-мужчынамі, але яны — істоты sui generis* паводле сваіх уласных праваў. Яшчэ іншае тлумачэньне ў сваёю чаргу распавядае пра нарцыстычную любоў мацярок да саміх сябе: гэткае іхняе каханьне ўцягвае ў сваё пашыраючае свой абсяг кола па матцы ейнае дзіця, а потым, гэткім жа чынам, і свайго ўкаханага — на матчын капыл — мужчыну, бо ж жанчыны фізіялагічна маюць большую колькасьць шляхаў да каханьня, чым мужчыны. Магчыма, мужчынам аніяк нельга наблізіцца да вырашэньня гэткае завілае загадкі папросту таму, што ў іх няма жаночых целаў. Не, сапраўды, жаночая сэксуальнасьць з пэўнасьцяй ёсьць вельмі цяжкай для зразуменьня!

Псіхалагічная праўда пра дасьведчаньні й перажываньні розных, неаднолькавых целаў, прынамсі, надаецца дзеля тлумачэньня нейкае колькасьці адрозьненьняў у сэксуальным тэмпераменце. Мужчыны павінны навучыцца адвазе, каб быць у стане супрацьстаць страху перад кастрацыяй ды пераадолець яго, каб дасягнуць сваёй мужнасьці й фізіялагічнае "суцэльнасьці". Тым ня менш, якраз у самцу, да таго ж часта ў самым як ніхто наймужным, магчыма абсерваваць наймацнейшае страхаваньне, прыкладам, гэткі адважны барацьбіт палохаецца кожнае магчымасьці якой-небудзь хірургічнае апэрацыі альбо іншае нагоды страціць, хай, сімвалічна, штосьці з свае анатоміі й, гэткім чынам, пераўтварыцца ў калеку. Як самец, ён найдалей вінен заставацца больш уразьлівым. Жанчыны, ужо дазнаўшы болю ў мэнструацыі,

---

* Свайго роду; своеасаблівымі (лац.). — *Заўвага перакладчыка.*

дэфларацыі й спавіцьці немаўляці, выказваюць шмат большую стаічнасьць і адважней сутыкаюцца з узгаданымі гатункамі цярпеньня — канешне, падстаў абвінавачваць іх у мазахістычным сімвалічным махлярстве больш — і гэта, паміж іншага, яшчэ й таму, што жанчыны з дасьведчаньня ведаюць: часта за цярпеньнем зьяўляецца прыемнасьць ды сьвяточнае адчуваньне кабечага здзяйсьненьня й напаўненьня. І як раз таму жанчынам часам зручна ставаць поліхіруртічнымі гістэрычкамі, тады як мужчыны ніколі не набываюць густаваньня ані ў гістэрычных сутаргах, ані ў натарчывых спробах нешта ад сябе адсячы на апэрацыйным стале.

Зноў жа, мужчынская мастурбацыя больш наладаваная віною ў вачах грамадзтва, чым мастурбацыя ў кабеты, чаму першая прыгнятаецца з горшай жорсткасьцяй. Суперэга самца зазвычай гэтак жа ёсьць больш зацьвярдзелым, нягнуткім і ня схільным да кампрамісу; суперэга самкі, у сваю чаргу, здольна часьцей выявіць нейкую бестурботнасьць ды вырашыць, што рэгулы не маюць да яе дачыненьня з поваду таго ж дамнеманага анатамічнага "калецтва", а як яна ўжо дазнала гэткае "няспраўядлівасьці", дык, значыць, "яна нешта належнае (за віну) ужо атрымала". Потым, калі самцы засвойваюць вымогі мужнага суперэга галоўным чынам ад самцоў (зазвычай, ад бацькі), і тое, што яны ўбіраюць у сваю мужнасьць у гэткім інтраекцыйным працэсе, паходзіць з мужных жа крыніцаў; аднак гэткі ж працэс праецыраваньня загадаў суперэга ў жаночую душу йдзе горш (бацькі больш паблажлівыя да дачок, чым да сыноў, ды й Электрын комплекс і супрацьлеглый яму контр-комплекс адбываюцца на больш прамым і непасрэдным шляху, параўнальна з Эдыпавым спаборніцтвам за маці), і жанчыны дастаюць частку свайго суперэга ад самак (гэта значыць, што жаночасьць дае ім маці). Сэксуальнасьць самца перасільвае й руйнуе перашкоды, таму што нармальны мужчына вырашае свой кастрацыйны комплекс, згаджаючыся з тым, што, як ужо паважаецца накінутая самцамі й самцам забарона на казіродзтва, дык актыўная мужная й мужчынская сэксуальнасьць ня будзе карацца кастрацыяй. А кастрацыйны комплекс самкі вырашаецца згаджэньнем на жаночасьць і набыцьцём сабе мужчыны, у якога ёсьць пэніс. І таму жаночая сэксуальнасьць акцэптуе падарунак, згаджаецца прыняць нешта незапрацаванае, бо нармальная жанчына жадае дзіцяці й ведае, што толькі прыдбаўшы сабе нейкага самца, які здольны даць ёй тое малое, яна атрымае жаданае ды, разам, дасягне поўнасьці сваёй падстаўнае жаночасьці. Мужчыны баяцца няздольнасьці да чыну (гэта значыць, няздольнасьці да каханьня); жанчын палохае магчымасьць быць некаханымі (не прыдатнымі да каханьня). Жанчыны ёсьць дарэчнымі асобамі ды канкрэтнымі асабістась-

цямі: напачатак яны кахаюць менавіта <u>гэтага</u> мужчыну й вось <u>гэтае</u> дзіця, таму што тыя сімвалізуюць жаночыя нарцыстычныя валоданьні або дасягненьні. Хай потым жанчыны, здараецца, знаходзяць нейкія сацыяльныя абагуленьні. для сваіх каханьняў, тым не менш, жанчына й найдалей кахае канкрэтна й пэрсанальна. А хлопец, па разьвітаньні з маткай — ягонае каханьне было больш напружаным, бо адразу яно было больш фізіялагічным, чым любоў дзяўчынкі да бацькі — набывае схільнасьць да большае адцягнутасьці; таму мужчыны ёсьць абстракцыяністамі й гэнэралізатарамі, ды й, хіба, горшымі манагамістамі, чым больш прыхільныя шлюбу з адным партнэрам жанчыны. Мужчыны здольны паказаць палкую адданасьць і вялікую павагу да абстракцыйных і штучных Эдыпавых гіерархіяў, на ўзор тых, якія можна ўбачыць у войску й якія ўспрыймаюцца жанчынамі як нешта папросту сьмеху вартае й не заслугоўваючае павагі, альбо як штосьці, недасягальнае для нармальнага розуму, чаму яны й не адчуваюць дакораў сумленьня, пры нагодзе падрываючы гэткія пабудовы з асабістых пабудак. Нарцысызм самца — вытворны й напружана сімвалічны, нарцысызм самкі — больш першасны й фізічны, ён бліжэй цела. Мужчыны зазвычай стаюцца сімвалічнымі стваральнікамі грошай, сімвалічна даводзячы моц і панаваньне, навукі, мастацтва, сацыяльных структураў (права, дзяржава), таму што толькі жанчыны здольны да праставдушнае й віддавочнае творчасьці (яны нараджаюць і гадуюць дзяцей). Адсюль і выходзіць, што мужчыны павінны бесперапынна ўвесь час <u>даводзіць</u> сваю мужнасьць, адчуваючы страхі, можна ж яе страціць ды магчыма, што яе паспрабуюць аспрэчыць, тады як жанчынам (калі толькі аднойчы пашанцавала пераадолець кастрацыйны комплекс) можна болей пасыўна й кантэмпляцыйна <u>быць</u> жаночымі, — бездакорна спазіраючы навокал і нічога не робячы. Сэксуальныя розьніцы, значыць, ёсьць, як яны выяўляюцца ў сацыяльных ролях, не столькі інтэлектуальнымі, сколькі матывацыйнымі й эмацыйнымі: асобнікі могуць адрозьнівацца сваім мейсцам у гаме мужнага-жаночага й усё ж паказваць неаспрэчна мужчынскія альбо рашуча жаночыя характэрыстыкі й схільнасьці. Ды й потым кожны асобнік бярэ інтраекцыі — уводзіць у сябе ўзятае — ад абоіх бацькоў: таму лекар, прыкладам, можа выяўляць сваімі паводзінамі значна-большую-тыповай-для-мужчынаў здольнасьць спачуваць іншым людзям, якую ён атрымаў у спадчыну ад маці, але, разам з тым, той самы доктар можа падкрэсьлена настойваць на сваім мужным панаваньні й бацькоўскім кіраваньні ў сваіх дачыненьнях з хворымі; гэтаксама ж, спатыкаюцца грозныя або паважныя ды пераможныя жанчыны, але й яны, зазвычай, здольны карыстацца паспалітымі кабечымі хітрыкамі й манэўрамі.

Пануе згода наконт хіба невылечнае й нямінучае навуковае недасканаласьці псіхааналізу: недахоп гэты выцякае зь "непаўторнасьці" досьледаў і, значыць, "няўзнаўляльнасьці" вынікаў ды ўвогуле экспэрыментальных дадзеных (рэч тутака зусім ня толькі ў адзінасьці — унікальнасьці — кожнага канкрэтнага казусу). Патрэбны нехта прытомны, — ці то як аналітык, ці то аналізаваны, — каб засьведчыць дадзеныя. Ды, з прычыны нашае цалкам нармальнае адпорнасьці й нашае ўпэўненасьці (няслушнае) ў тым, што "каго-каго, але сябе я ведаю", вынікае сапраўдная немагчымасьць неяк інтэлектуальна перакласьці тыя навуковыя абагульненьні, зь якімі аналітык зьвяртаецца да пачцівае публікі, у тую рэальнасьць, якую яны падсумоўваюць, — у тую, як найпраўдзівейшую рэчаіснасьць пачуцьцяў ды вантробаў, якая раптам прасякае нас бы гром, калі мы на ўласныя вочы, з напалоханым падзівам, бачым, што ўсе мудрагелістыя пабудовы вучонага лекара як найдакладней пасуюць да нас, ды гэтак, што ня выкінуць ані кропкі, ані рысачкі. І як ўжо навернутыя ў псіхааналітычную веру аналізуемыя, гэтак яшчэ прабуючыя не даваць веры й таму адпорныя на аналіз, павінны згадзіцца з тым, калі яны шчырыя, што як псіхалагічныя адкрыцьці, гэтак і ўсказаньне псіхіатарам на іх вагу й сэнс, адбываюцца ў нейкай прыватнай, утульнай, выгоднай і ахоўваемай сітуацыі, дзе апроч лекара й пацыента нікога няма; таму як раз гэтак цяжка перадаць тыя інтымныя транзакцыі, тыя ўзаемадзеяньні большай грамадзе або дастаткова вычарпальна — зноў жа, ня кажучы ўжо пра зусім зразумелыя спробы абароны, па якія сягаюць нармальныя людзі, каб не глядзець у глыбокія прадоньні гэтулькіх жудасных і палохаючых рэчаў. Аднак, каб займець нейкі стопень разуменьня, усё, што трэба, гэта пасядзець пры якімсьці "Вялікім круглым стале" ў клініцы, калі мэдыкі абменьваюцца ўражаньнямі й меркаваньнямі наконт адзінага асаблівага псіхіатрычнага казусу; можна, дзеля гэтай мэты, паслухаць, захоўваючы свой розум адкрытым, якога-небудзь псыхотыка ў Дзяржаўным Шпіталі, трымаючыся асьцярожнае дапытлівасьці — ва ўсялякім выпадку, прыходзячы да высновы ў бязпечнай псіхалагічнай прыватнасьці, ці то будзе выказ нашае здольнасьці ўпершыню пранікліваым нутраным позіркам дайсьці да сваіх глыбінных нетраў, ці не — прынамсі, мы павінны будзем пераканацца, што ў справу ўцягнуты насампраўдзе распачлівыя й пагрозьлівыя матэрыі. Гэта, па сутнасьці, ёсьць бачным пацьверджаньнем нашае ўласнае раўнавагі й сілы — як ужо мы ў стане выслухаць нешта гэткае, ды нас не ахоплівае трывога, можа тады даць веры нашай зраўнаважанасьці. З падобных прычынаў кожны псіхіятра мусіць карпатліва й вычарпальна практыкавацца ў майстэрстве пазнаваньня самога сябе, бо мы ў стане заўважыць падчас клінічнае курацыі, прыкладам, толькі ўжо пабачанае ў сябе.

Псіхааналіз трымаецца шэрагу дапушчэньняў, якія сёньня падзяляюцца й іншымі псіхологіямі. Першая гіпотэза — гэта псіхічны дэтэрмінізм. Усё, што здараецца ў душы, у сьвядомым розуме, ёсьць часткай неяк уладкаванага, бо падпарадкаванага пэўным рэгулам і правам сусьвету. Кожная псіхічная падзея мае прычыны й скуткі, ня менш непазбежныя за хімічныя працэсы ў мазгу, і тут ня мае значэньня, ці й у якой меры тыя падзеі здаюцца шматлікімі, цьмянымі або складанымі, ды без значэньня й тое, ці ды як цяжка іх адкрываць, распазнаваць або вычарпальна іх разглядаць. Кожная спроба палкага, адмысловага цьверджаньня, што, маўляў, прынамсі вось гэтая падзея ёсьць "чыста выпадковай" альбо "ня мае значэньня", ужо ўказуе, самаёй сваёй гарлівасьцяй, бы нястомны й нягнуткі указальны палец, на прысутнасьць сьвядэцтва: ага, тутака нешта ёсьць. З таго выходзіць, што поўны псіхічны псіхааналіз мае вельмі яснае разуменьне таго, навошта й якім чынам колькі "неафройдыстаў", на ўзор Ранка, Юнга, Адлэра, мелі палічыць неабходным паспрабаваць усунуць у склад сістэмы нейкія, нібыта немагчымыя для аналізу й таму непрааналізаваныя ўласныя — у кожнага з "бунтаўнікоў" свае кавалкі. Разам з тым класічны псіхааналіз не аспрэчвае даробку тых навукоўцаў, бо шмат што зь іхніх дасягненьняў на добрае прыдаецца аналітычнае традыцыі[8].

Іншае адкрыцьцё, якое сёньня прызнаецца, разам з псіхааналізам, другімі сучаснымі псіхалогіямі, кажа нам, што ўсё тое, што трапляе ў сьвядомы розум, выходзячы, гэтак бы мовіць, на паверхню, зусім не вычэрпвае ўсяе актыўнасьці розуму. Бо ж ёсьць гэтаксама й няўсьвядомленая складовая псіхічнае гаспадаркі, — існаваньне гэтае часткі дому душы пасьвядчаецца рознымі зьявамі на ўзор гіпнозу, сноў, памяці, наяўнасьці колькіх асабістасьцяў у аднае асобы й падобнае. Адзінай непаўтаральнай адзнакай псіхааналізу ў тыя нашыя дні, якая дазваляе бачыць у

---

[8] Прыкладам, тыя з ранейшых адкрыцьцяў Юнга, у якіх ён растлумачыў, што гэта ёсьць — шызафрэнія, неаспрэчна назаўжды сталіся часткай псіхааналізу як бліскатлівы й патрэбны элемэнт фройдызму. Пад тым жа знакам можна ганіць і самога Фройда за ягонае надмернае "юнгіянства" ў праецыраваньні адразу й упрост усяе Эдыпавае сітуацыі ў міталагічнае былое, нібыта ён ведаў, як яно тады насампраўдзе было — калі ягоная пабудова змушае ўзгадаць яшчэ й пра Ламарка зь ягонымі "набытымі характэрыстыкамі", бо Фройд гэткую "прыдбаную рысу" прымацаваў да юнгаўскага "людовага (калектыўнага) несьвядомага"! Таго ж гатунку крытыка належыць і Ранку з Адлерам, ды, зноў жа, шмат якія папрокі ў іхні бок, можна зьвярнуць і на Фройда. Кожная "артадоксія" замацоўваецца ў мностве крытычных ды вострых розумаў, бо чалавек ёсьць чалавекам і такая ўжо ягоная натура.

гэтай дактрыне нейкі ўнікум, застаецца хіба выкарыстаньне "вольных асацыяцый" — гэта мэтодыка, у якой аналітык дазваляе пацыенту выдумляць усё, што толькі можна прыйсьці на розум, ды распавядаць пра гэта, без усякіх абмежаваньняў або спасьцяражэньняў. Хай кожны ў гэтыя новыя дні й ведае пра мноства бліскатлівых і пасьпяховых спосабаў дасьледаваньня, якія ёсьць альтэрнатывамі мэтаду "адвольных ставарышэньняў паміж ідэямі", адно другога не выключае, тым больш, што тыя іншыя прыёмы дазваляюць зь іншага боку падыйсьці да распазнаваньня няўсьвядамлянага зьместу розуму, гэта значыць, дапамагаюць псіхааналітыку ў ягонае клінічнае працы, — можна ўзгадаць Тэст Роршаха, Тэст тэматычнае акцэрцэпцыі, іншыя праектыўныя мэтады. Зразумеўшы сутнасьць тых спосабаў, нельга не прыдбаць належнага да іх рэспэкту. Славутасьць іхняя ёсьць слушнай, бо гэта сапраўды магутныя дыягнастычныя прылады. Аднак, калі мова пра тэрапію ды практычнае лячэньне, дык старасьвецкі ід-аналіз[9] настойвае на неабходнасьці для пацыента сьвядома ўглядвацца ў сябе — хворы павінен праніклiва ўзірацца ў свае псіхічныя мэханізмы, без чаго ніяк нельга, калі ўжо ёсьць намер,

[9] Акрэсьленьне "старасьвецкі" я ўжываю ў дачыненьні да класічнага аналізу ід, дзе патрэбны працяглыя й каштоўныя тэсты, і таму, бяручы пад увагу нястачу кваліфікаваных аналітыкаў, належала бы на часе заставіць класічныя мэтады толькі найдапытлівейшым дасьледнікам і, магчыма, тым, хто толькі вучыцца на псіхіятара. Навачэсны "эга-аналіз", хай неяк складанейшы й больш уцяжлівы, бо вымагаючы ад аналітыка звышвыдатнага спрыту ў выяўленьні найважнейшых пытаньняў, зь якімі потым трэба будзе працаваць, але гэтая мадэрновая вэрсія псіхааналізу ў стане часта абыходзіцца без "татальнага" празіраньня пацыента пад час курацыі. Да таго ж яна выгаднейшая ў сэнсе патрабаваньня на час ды грошы, хаця болю яна, на жаль, не шкадуе. Больш таго, вялікую частку тэрапіі належыць, з пункту погляду мэтодыкі, залічаць не да псіхааналізу, але разглядаць у якасьці "псіхааналітычна арыентаванага лекаваньня". Вядома ж, што шмат якім прымітыўным спосабам курацыі, на ўзор тых, якія выкарыстоўваюцца першабытнымі плямёнамі, аніяк нельга адмаўляць здольнасьці вылечваць хворых, ня гледзячы ані на ірацыянальныя, амаль вар,яцкія мэты тубыльчых людаў, ані на адсутнасьць прыканцы "тэрапіі" хай бы найменшага сьвядомага бачаньня сутнасьці: справы з боку пацыента, гэтак і "тэрапэўта" ("шамана", "чараўніка"). Сьведчаньні таму ёсьць, прыкладам, у кнігах "Чарадзейства, вера й аздараўленьне", рэдакцыя — Ары Кіеў (Ari Kiev. (ed). Magic, Faith, and Healing. — Нью-Ёрк: Фры-Прэс, 1964) ды "Культура й здароўе душы", пад рэдакцыяй Марвіна К. Оплэра (Marvin K.Opler (ed). Culture and Mental Health. — Нью-Ёрк: Макмілан Кампані, 1959).

прыцягнуць да адказнае працы кіруючае эга, якое цяпер набыло вастрэйшае чутнасьці й глыбейшага разуменьня праблемы.

Падобнае разуменьне прыходзіць толькі шляхам доўгага ды патрабуючага мноства сіл ды трываласьці працэсу, у якім суб`ект аналізу здраджае сябе праз шэраг прыкладаў асаблівых паводзінаў, якія выпадкі праз пэўны час пацыент, прыахвочаны тэрапэўтам, пачынае параўноўваць, каб вырашыць, для самога сябе, ці дзеюць у тых прыкладах акрэсьленыя мэханізмы ды, калі гэтак і ёсьць, у якім стопні й якім чынам гэта адбываецца, ды, можа ці не выявіць пэўныя характэрыстычныя, адмысловыя рысы тае мэханікі — аднак усё гэта патрабуе пераадольваньня найнапружанейшае адпорнасьці суб`екта, бо той не жадае адкрыцьця старых ранаў. Абаронныя мэханізмы ўмешваюцца недзе паміж супольна падзяляемымі й сумесна выкарыстоўваемымі падрабязнасьцямі ўзгаданага роду ды запазьняючымся прызнаньнем іхняе рэальнасьці. Аналітыку ня трэба спрачацца альбо ўмаўляць нейкую дактрыну, бо дадзеныя знаходзяцца побач, неаспрэчна тут, ды, нават, калі б іх далося кудысьці дзець, яны ж, з пэўнасьцяй, здолеюць дастацца на паверхню нейкім другім разам. Але трэба памятаць, што інтуіцыйныя здагадкі аналітыка зусім не павінны кожным разам і самапасам ставацца роўнымі або роўназначнымі празіраньням у сябе самога пацыента.

Дзіўная рэч, але ж "вольным асацыяцыям", тым анічым не абмежаваным спалучэньнем стрыжанага з голеным ды вазоў з гарбузамі можна й, больш таго, трэба вучыцца: аналізуемы павінен засвоіць мастацтва бязьлітаснае шчырасьці розуму й пачуцьцяў ды настрояў, якая ёсьць вольнай ад усялякае цэнзуры й кажа выпавядаць уголас усё, што толькі ня прыйдзе да галавы, хай нязграбнае, бязглуздае, сьмеху вартае, ганебнае, злоснае, непрызваітае, брыдкае альбо папросту нуднае, бо трывіяльнае. Кожны хворы мусіць засвойваць гэткае ўменьне, пакуль ён праходзіць праз працяглыя папярэджваючыя тэсты й іспыты ды дзесьці прыканцы гэтага падрыхтовачнага этапу хворы пачынае верыць, што ў лекара няма намеру неяк яго пакрыўдзіць — наадварот, пацыент набірае веры, што аналітык будзе слухаць і пачуе ўсё, што ні скажа пацыент, і з боку першага ў дачыненьні да другога ня будзе ані ўкараньня, ані асуджэньня, ані адмаўленьня, ані маральнага паніжэньня. Тады й узнікае тая звышасаблівая й надзвычайная зьява "перанесеньня" або "перадачы" ("трансфэр", "трансфэрэнс"). Гэты "перанос" зь ягонай "празрыстасьцяй" часам памылкова ўважаюць за нейкую "закаханасьць" у аналітыка, аднак падобныя ўражаньні й апініі разыходзяцца з мэтай ды спладжаюць памылкі. Што менавіта адбываецца падчас "пераносу", дык гэта тое, што аналітык усё больш і усё мацней стаецца прыймальным праз пацыента й больш звыклай часткай

краявіду, гэтак бы мовіць, таму хворы ўспрымае лекара як нешта абыякавае й нэйтральнае, як гэткага слухача, які не патрабуе ад свайго размоўцы звыклага для паміжлюдзкіх адносін прыстасаваньня ды выкананьня рэгул "сацыяльнага пратаколу" й падобных правіл прызваітасьці, ветлівасьці, канвэнансу й палітэсу; паступова ды ўсё мацней і ўва ўсё больш чыстай форме пацыент пачынае ставіцца да аналітыка як да асобы, якая нібыта мае крытычную вагу ў дачыненьні да нейкае прыватнае праблемы, што здарылася ў мінулым.

Праверка й іспыт тым трансфэрэнсам стаецца способам дасьледаваньня, бо тут выяўляюцца й кладуцца папросту перад вачыма голымі, без аніякае вопраткі або цэнзуровае пакрывы пачуцьці й настроі й стаўленьні пацыента ў дачыненьні да ягоных бацькоў ды астатніх крэўных, — іншымі словамі, пацыент паказвае й адкрывае — самаму сабе таксама — тое, што ён адчуваў на гэты конт у сваім дзяцінстве. Аналітык аніяк ня можа ўпэўнена й бязглузда мець думкі пра закаханасьць усіх ягоных хворых у свайго лекара, — маўляў, таму яны й стаюцца гэтулькі шчырымі. Як найдалей ад чагосьці падобнага — аналітык ведае дакладна, што усё тое, што праецыруе пацыент на нейкі пусты экран, ня мае й мець ня можа аніякага дачыненьня да рэчаіснае прыватнае асабістасьці аналітыка — ведаць гэта вельмі карысна тады, калі аналітык мае праглынуць шмат несправядлівых, няпраўдзівых ды ледзь магчымых для вытрываньня меркаваньняў і заяваў, тады як другім разам або й папросту крыху пазьней, гэткія абразьлівыя размовы хворы можа памяняць на ня менш нязграбныя спробы выказаць сваю любоў да лекара. Дзеля захаваньня свае непрыкметнасьці, каб заставацца чымсьці меншым за асабістасьць, аналіста намагаецца нават зьнікнуць з вачэй пацыента, які разьлягаецца на канапе, і таму сядае недзе ззаду й з боку, каб той яго ня бачыў; да таго ж, спрактыкаваны аналітык нястомна ўвесь час сочыць за ўласнымі настроямі, якія сплятаюцца ў "перанос у адваротным напрамку" — "контр-трансфэр-энс)", бо ў сваіх адчуваньнях, у сваёй ні да чаго ні прынятай і таму вольнай ды як бы гойсаючай, бы на хвалях, увазе й у сваім разуменьні ягонага ўласнага несьвядомага аналіста шукае чагосьці, што ў стане павучыць яго наконт аналізуемага — але разам з усім узгаданым, лекар карпатліва й старанна пазьбягае ўсялякага ўскладаньня на хворага новых цяжараў. Таму, напрыклад, пачуўшы палкія пацыентавы пярэчаньні ды спасылкі на любоў, лекар хутчэй за ўсё пачне, к зьдзіўленьню й дзеля павучэньня пацыента, указваць амбівалентныя — двухзначныя й рознанакіраваныя — складовыя пацыентавае "любові".

Занадта цікаўскія й калі ня сьмеху вартыя, дык незвычайныя й нячаканыя зьявы ўзьнікаюць і адбываюцца ў тым трансфэры:

вельмі часта аналізуемы можа ставіцца да лекара-мужчыны гэткім чынам, быццам той апошні ёсьць расчуленай звышклапатлівай ды звышахоўваючай хворага маткай; гэтаксама, калі лекар — жанчына, пацыент здольны ўспрыймаць яе бы жорсткага й сьхільнага да моцнага панаваньня бацьку. Зьмест кожнага сьцверджаньня падчас пераносу ёсьць падобным на тлумачэньні сэнсу лапезных плямаў у тэсце Роршаха: усялякае "значэньне" нельга шукаць у стосе безсэнсоўных картаў або ў пазбаўленай аблічча не-асобе аналітыка, але "сэнс" знаходзіцца толькі ў розуме праецыруючага паддосьледнага, у душы суб`екта аналізу. Зноў жа, празрысты перанос ад кагосьці з бацькоў да тэрапэўта зусім не абавязкова будзе афарбавана любоўю, бо ж здараецца, што дзеці адчуваюць да сваіх бацькоў нянавісьць. Трансфэр можа быць гвалтоўна "адмоўным" (маючы нэгатыўны каларыт нянавісьці) ў сваім пачуцьцёвым зьместе, але, тым ня меньш, спладжаць карысныя дадзеныя, калі рэч у ўцяжлівай праблеме ў дачыненьнях з кімсьці з бацькоў альбо ў завіласьці, што дакучае каму-небудзь зь іх; але, натуральна, дадатняе перанесеньне — лепшае, бо зь ім лягчэй даць рады падчас тэрапіі, а небязьпека дачаснага разьвітаньня паміж лекарам і хворым значна малее пры гэткім пазітыўным трансфэры. Ва ўсялякім разе лекар ведае, што нянавісьць хворага ня мае да яго аніякага дачыненьня, хай тэрапэўтычная праца стаецца, дзякуючы гэткім чыньнікам, яшчэ цяжэйшай, бо ня гледзячы на ўсю сваю нэйтральнасьць, лекар застаецца толькі чалавекам, якому яшчэ трэба неяк давясьці самаму сабе, што наяўная нянавісьць накіравана ёсьць не на лекара, ды й увогуле, чалавек побач — хворы, а ягоная адмоўная рэакцыя на аналітыка насампраўдзе накіравана ёсьць на бацьку, якога хворы заўважыў у асобе аналісты. Марудна, спакваля пацыент пачынае ўсьвядамляць сабе, што ўсе ягоныя заявы падчас пераносу ёсьць ня чым іншым, як толькі ягонымі рэчаіснымі настроямі, — гэта ён, хворы, выкладаў іх, а вось яны ляжаць тутака, без усякае пакрывы, голымі й безабароннымі. Аналіста мае толькі адлюстраваць усё гэта, каб паказаць, бы ў люстэрку, пацыенту пацыентава ж псіхалагічнае аблічча: вось як ты выглядаеш, глядзі!

Праўдай ёсьць, безумоўна, і мяркаваньне наконт падабенства тае празрыстае перадачы зьявам, што трапляюцца па-за межамі ўсялякага аналізу — рэч у тым, што, спаткаючы які-небудзь новы, незнаёмы твар, мы заўжды адказваем на ягонае зьяўленьне нашымі звычайнымі пачуцьцямі й настроямі, якіх ужо дазналі ў мінулым і якія намі ўжо паназапашаны. Ёсьць нешта асьляплялльна аслупляючае ў той нашай апантанасьці, зь якою мы несьвядома шукаем у чужых людзях актораў на ролі ў нашых асабістых, прыватных драмах: прыкладам, можна пабачыць злась-ліавага, маластковага, свавольнага бацьку ў амаль не пазнаным

кіраўніку, хай насампраўдзе гэты наш новы адміністратар ёсьць мілым і зусім дабрадушным чалавекам. "Каханьне зь першага погляду" часам выбухае таму, што ў выглядзе новага чалавека далося заўважыць нейкую рысачку, якая адродзіла ў памяці ўспамін аб вельмі дарагім і моцна каханым у мінулым чалавеку, звычайна аб адным з бацькоў (дзяўчына мае рудыя валасы, як калісьці былі ў маці), — гэткі штрых бы нейкі ключык зрушае зь мейсца рухавік праектыўнае фантазіі. Вядома ж, што гэткага ўзору "вялікае каханьне" аніяк, ужо з дэфініцыі, з вызначэньня тэрміну як такога, не вынікае з дасканалага веданьня тае асобы, што ўмовіла закаханаму ягоную альбо ейную пасію, — не, "аб`ект намэтнасьці" папросту трапіў на вочы й уразіў як раз вольны ад клопатаў розум. Таму й кажуць, што той (альбо тая), хто сьпяшаецца ажаніцца, будзе, магчыма, потым мець досыць часу, каб шкадаваць аб сваёй заўчаснай хуткасьці. "Першая любоў", здаецца, зноў жа больш узгадвае сваім зьместам тыя ж плямы тэсту Роршаха, бо як і з таго выпрабаваньня паводле Роршаха, гэтак і зь першае закаханасьці чалавек даведваецца перш за ўсё пра самога сябе; што праўда, дык тое, што веды тыя пранікаюць у нашую сьвядомасьць праз боль, а калі мовіць пра першую закаханасьць, дык боль змацняецца з набыцьцём больш паглыбленага пазнаньня — шляхам сваеасаблівага частковага трансфэру — аб`екту сваіх лятуценьняў і пажаданьняў. Сапраўдная ж любоў зраджаецца толькі зь веданьня як суб`екту, гэтак і аб`екту, ды трэба, каб абодва ўзаемна згаджаліся кожны на кожнага. Інакш кажучы, трэба (калі глядзець з аднаго боку) ведаць каханую асобу й знешне й з сутнасьці, і гэткая перадумова павінна йснаваць на абодвух баках працэсу. Выходзіць, гаворачы неяк вольна, на лузе, што трансфэр для будзёнае апантанасьці ў звычайных сацыяльных сытуацыях, у простых грамадскіх справах ёсьць, канешне, бязглуздым глупствам.

Існуе ж і яшчэ адна дадатковая складанасьць. Фройд меў веру ў тое, што кожны нэўроз — а кожная асоба ёсьць да нейкае ступені нэўратычнай, у пэўным тэхнічным сэнсе — ёсьць гэткай фрустрацыяй, што зьяўляецца з разчараванасьці нармальным узрастаньнем, ды, адначасова, перашкодай таму ж нармальнаму сталеньню. Нэўроз — гэта нешта на ўзор струпа або ахоўваючае скарынкі са скуры, што, бы кароста, нарастае на балючай і брыдкай ране. Некалі ў мінулым вось гэтага асобніка непакой і страх перад новымі й тады яшчэ нявырашальнымі задачамі агарнулі былі ўсё кволае, але дарастаючае й намагаючае прыстасоўвацца эга дзіцяці. Гэта значыць, што ён, гэты асобнік стаўся "замацаваным" або "зафіксаваўся" (моцна або памяркоўна) на той ступені свайго разьвіцьця, на якой ён пазнаў быў трывогу, ды й дасюль усё ніяк ня здолее даць рады той прыхаванай нявы-

рашанай праблеме, якая пасьпяхова вырашаецца другімі асобамі. Таму "нармальны" чалавек зусім слушна ды насампраўдзе не пакутуе чынна ад нейкага "Эдыпавага комплексу", што дакучае яму, прыкладам, тым, што не дазваляе яму кахаць іншых жанчын гэтаксама й тым самым чынам, як ён любіў сваю маці, і гэткае абмежаваньне можна лічыць "калецтвам", што "нармальная" асоба "нармальна" ня робіць; тым не менш нават "нармальнаму" чалавеку даводзілася, ды й ці аднойчы, ставаць тварам у твар з Эдыпавым наканаваньнем, бо такі ўжо ёсьць лёс кожнага чалавека. Нармальны мужчына цалкам звычайна, як кажуць, паспаліта, спатыкае, калі яму пашчасьціць, матчыную чуласьць разам з, часам даволі-такі адвольнай, кахаючай згодай на ўспрыяцьце й суйснаваньне ў жанчыне, якую ён любіць; але ж гэтая жанчына — не ягоная маці, ды й ён, таксама, ёй ня сын. Гэтаксама й нармальная жанчына зусім паспаліта знаходзіць, калі ёй пашанцуе, бацькаву сілу й кахаючую ахову й бясьпеку ў сваім чалавеку; але ён ёй — муж, а не бацька, як і яна — яму не дачка. Ды ўсё гэта, аднак, магчыма толькі таму, што сталая, дарослая любоў мае свае карані недзе ў глыбокім дзяцінстве.

Цалкам наадварот з нэўротыкамі: нэўратычнае эга функцыянальна пакалечана, яно — у чыннасным сэнсе — выглядае пачварным, бо выказвае дрэнныя здольнасьці што да вырашэньня йснуючых праблемаў, якія б тыя заданьні ні былі, таму што ўвесь той жудасны канфлікт, які ў свой час ахапіў дзіцячую душу, у рэшце рэшт стаўся прыгнечаным і яго, у прыхаваным выглядзе, пашанцавала загнаць у несьвядомае. Аднак, знаходзячыся там, тое прыгнечанае змаганьне неяк тлее, бруіць і паграджае выбухам, — нібыта рандэля з шчыльна прыціснутай крышкай на малым агню, унутры якой здаўна ўжо бурліць сумесь пары зь юшкай, — і гэткая небясьпека выбуху час ад часу дае сябе пазнаць ці то ў нейкім сімптоме, ці, другім разам, напружанай устрывожанасьцяй, ды, зноў, у нэўратычным "паказваньні"[10]. Уся работа

---

[10] Зноў жа, існуе агромністае нагрувашчаньне непаразуменьняў наконт таго "паказваньня" або "аднаўленьня праз гульню" — "acting out". У адрозьненьні ад паточных уяўленьняў, казаць пра "паказваньне" ў слушным сэнсе слова трэба тады, калі хворы ня ў стане вэрбальна — праз словы — акрэсьліць свае дакучлівасьці, але ён можа "паказаць" свой канфлікт, нібыта актор на сцэне тэатру, або магчыма адрозьніць праблему ўнутры рэальнага, што па-за межамі аналізу, жыцьця пацыента; праз пэўны час пацыент можа растлумачыць аналітыку тое, што ён ужо паказваў, і праз словы. Хай гэткая "гульня ў паказваньне" не надаецца на ролю зручнага спосабу камунікацыі, а часамі стаецца нават небясьпечнай, тым ня менш гэткім шляхам як аналіста, гэтак і пацыент дастаюць важкія дадзеныя для аналізаваньня. У паспалітым, паточным ужываньні "паказваньне" часта раўна-

тэрапіі, як цаласьць, ёсьць у тым, каб адкрыць застарэлыя забытыя пакуты й палохаючыя дасьведчаньні й жудасныя пабудкі ды ймкненьні й жалю годныя смутна прайграныя бітвы, дзеля таго, каб потым супрацьстаяць ім ды зразумець іх з дапамогай больш сталых рэсурсаў, якія здолела назапасіць ўжо дарасьлейшая асоба; заданьні гэткага роду вырашаюцца спачатку ўскладаньнем усяго цяжару на адважнага й не палохаючагося аналітыка, а потым, калі эга пацыента набярэ сілы, задача паступова перадаецца пацыенту, бо яму ўсё роўна трэба даваць рады нікуды не зьнікаючым праблемам ды, увогуле, належыць неяк самастойна кіраваць уласным жыцьцём. І ня трэба шукаць ува ўсім гэтым нейкага вядзьмарства, — тое, што выглядае на магію, ёсьць папросту інтэлектуальна прыстойнай і эмацыйна шчырай барацьбой, болем і цяжкай працай. Аніхто не павінен спадзявацца зразумець Фройда, пакуль гэткая цікаўная асоба не пажадае й ня здолее адбыць, тым альбо гэткім шляхам, пагрозьлівае й страхатлівае й палохаючае падарожжа ў мінулае. Але ж калі гэткі чалавек будзе здольны адважыцца на такое й зробіць гэта, ён (альбо яна) на ўласныя вочы й на ўласны капыл пабачыць — у сабе й для сябе — усе гэтыя рэчы.

---

значна дэманстраваньню сваёй дурноты — або маніфэстацыі ўласнага нэўрозу, — на жаль, можна й у гэтым выпадку, лічыць, што людзі карыстаюцца спэцыяльнымі тэрмінамі, не разумеючы іх сэнсу, а адмысловае словазлучэньне ператварылася ў яшчэ адно ходкае кліша.

## Спасылкі на літаратуру*

1. Г. Одэн [W.H.Auden]. Збор паэтычных твораў У.Г. Одэна. — Нью-Ёрк: Рандам — Гауз. Інкорпорэйтад, 1945), р. 166. Гэты паэта мае пэўнае дакладнае й слушнае веданьне таго, дзеля чаго й пра што ёсьць той Фройд.

2. Галоўныя крыніцы гэта, перш за ўсё, творы самога Фройда: Растлумачэньні сноў (Поўны збор псіхааналітычных працаў Зыгмунда Фройда, рэдактар Джэймс Страчні (Strachney), "Standart Edition" — "Узорная рэдакцыя". — Лондан: Хогарт-Прэс, лімітэд, 1953, тамы 4 й 5); Збор артыкулаў Зыгмунда Фройда. — Нью-Ёрк: Бэйзік-букс, Інкорпорэйтад, т.3, 1959, — гэтаксама й выдавецтва Эйвон-Букс; Тры прынашэньні ў скарбніцу тэорыі полу. — Нью-Ёрк і Уошынгтон: Нэрвоўз-энд-Мэнтал Дысіз Паблішынг Кампані, 1930); гл. яшчэ ў: Галоўныя творы Зыгмунда Фройда. — Нью-Ёрк: Модэрн Лайбрэры, 1938, pp.181 — 549, але пераклад Страчні ва "Узорнай рэдакцыі" лепшы, — апублікаваны пераклад Страчні як у кніжцы ў вокладцы ("пэйпарбэк"), гэтак і ў "Узорнай рэдакцыі" — выданьне у вокладцы зрабіла выдавецтва "Бэйзік Букс"; таксама: Эга й Ід (ёсьць колькі перакладаў у расейскую мову, пад рознымі назвамі: "Я и Оно" ды інш.). — Лондан: Хогарт-Прэс, лтд., 1927; Па-за межамі прынцыпу прыемнасьці. — Лондан: Хогарт-Прэс, лтд. 1922 (колькі перакладаў у расейскую мову пад назвамі: "По ту сторону принципа удовольствия", "За пределами принципа удовлетворения" ды інш.); Цывілізацыя ды яе невыгоды. — Лондан: Хогарт-Прэс, лімітэд, 1930 (пераклад у расейскую мову мае назву "Неудовлетворенность культурой") — апошнія тры вялікія артыкулы з узгаданых можна знайсьці й ва "Узорнай рэдакцыі". Яшчэ варта пазнаёміцца, апроч твораў Фройда, з гэткімі класічнымі

* Усе назвы перакладзены з ангельскае мовы. Ангельскае напісаньне даецца толькі з мэтай палегчыць пошукі працы ў бібліятэцы. — *Заўвага перакладчыка.*

псіхааналітычнымі працамі як "Выбраныя артыкулы Карала Абрагама" (Selected Papers of Karl Abraham). — Лондан: Хогарт-Прэс, лтд., 1927; Шандор Фэрэнцы (Sandor Ferenczi). Далейшы даробак да тэорыі й практыкі псіхааналізу. — Лондан: Хогарт-Прэс, лімітэд, 1926; Эрнэст Джоўнз (E. Jones). Разважаньні пра практыку псіхааналізу. — Лондан: Хогарт-Прэс, лтд., 1928 ды Артыкулы пра псіхааналіз. — Балтымор: Уільямз энд Уілкінз Кампані, 1912 ды гэтаксама выдаветцтва Бікан (Beacon) (у вокладцы). Лепшыя ўводзіны ў фройдызм належаць пяру Карын Стывен (Karin Stephen). Псіхааналіз і мэдыцына: Дасьледаваньне прагненьня ўпасьці. — Лондан: Кэмбрыдж Юнівёрсіты Прэс, 1939; найлепшы кампендыюм — хіба кніга Фэніхэля (Fenichel), але гэты сьціслы выклад фройдызму ў адным томе патрабуе ўжо пэўнае знаёмасьці з тэмай і таму кнігу Ота Фэніхэль. Псіхааналітычная тэорыя нэўрозу. — Нью-Ёрк: Ў.У. Нортан энд Кампані, 1945 можна раіць толькі падрыхтаванаму дасьледніку. Найвыдатнейшая біяграфія напісана была ўжо ўзгаданым вышэй Эрнэстам Джоўнзам: Эрнэст Джоўнз. Жыцьцё й праца Зігмунта Фройда. — Нью-Ёрк: Бэйзік Букс, 3 тамы, 1953-1957; можна набыць скарочаную вэрсію тае знакамітае біяграфіі ў кішэнёвым (у вокладцы) выданьні. Майстэрскае разуменьне Фройда й ягонага жыцьця й дзейнасьці ў спадарожным яму культуровым кантэксьце выказаў гісторык з Йэйльскага унівэрсітэту, знакаміты навуковец Пітэр Гэй (Gay). Фройд, жыды ды іншыя немцы (Peter Gay. Freud, jeus and other germans). — Нью-Ёрк: Оксфорд Юнівёрсіты Прэс, 1979.

Пераклаў Алесь Каўтаскін,
травень 1994 году, Масква.

Ўэстан ЛА БАР

# АСАБІСТАСЬЦЬ З ПСІХААНАЛІТЫЧНАГА ПУНКТУ ГЛЕДЖАНЬНЯ

*...сталым ёсць чалавек, які здольны да працы й да любові...*

*З.Фройд*

*Ўэстан Ла Бар належыць да ліку найвыдатнейшых амэрыканскіх навукоўцаў, спэцыяльнасьць якіх яны самі акрэсьліваюць як культуровую антрапалогію (пад культурай разумеецца ўсё, чым адрозьніваецца чалавек ад кожнае іншае жывое йстоты — зброя, танец, філязофія), а на бліжэйшых да нас абшарах яго б хіба палічылі этнографам альбо краязнаўцам. На жаль, не гледзячы на ягоную выдатнасьць, доказам якой могуць быць шматлікія спасылкі на ягонае імя ў літаратуры, даведацца пра яго вельмі цяжка. Працаў ягоных на прасторы былога СССР таксама амаль няма. Усе ніжэй узгадваемыя зьвесткі паходзяць з тых кнігаў, якія ўсё ж такі пашанцавала знайсьці.*

*У 1980 годзе ён займаў катэдру прафэсара антрапалогіі ў Дзюкаўскім унівэрсітэце стану Паўночная Караліна, горад Дзюргам; пасада была пачэсная, бо насіла ймя заснавальніка таго ж ВНУ Джэймса Б. Дзюка. Сёньня, калі ён яшчэ жывы — дай яму Божа даўгалецьце са здароўем! — прафэсару, мусіць, недзе каля 90 год, бо першыя працы ён апублікаваў быў у сярэдзіне 1930-х гг. Жанаты, мае дачку й колькі (дакладна невядома, але не менш за два) сыноў. Прафэсар шмат бадзяўся па планеце, выкладаў у розных унівэрсітэтах ЗША, напісаў мноства кнігаў, адна зь якіх — «Людзкая жывёла» («The Human Animal») — сталася бэстсэлерам ды выдавалася за 1954-1980 гг. больш за тузін разоў.*